# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы і дырэктывы Беларускага Рэспубліканск. Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 10 (45) | 25-га ліпеня 1930 году | № 10 (45)


## ЗЬМЕСТ



## Пастанова

### Пленуму БРК саюзу СГЛР па дакладу Народнага Камісарыяту Землеробства аб выніках вясеньняй пасеўнай кампаніі і задачах уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.

1. У выніку правільнага і рашучага правядзеньня Ленінскай палітыкі рабочай клясай пад правільным кіраўніцтвам нашай партыі дасягнут „магутны зрух у справе калектывізацыі бедняцка—серадняцкіх мас сялянства, які знаменуе вялікі пералом у разьвіцьці сельскай гаспадаркі БССР у бок каранога яе ператварэньня ад дробна—сялянскай малатаварнай гаспадаркі да буйнага сацыялістычнага землеробства“ (з рэзалюцыі XIII-га зьезду КП(б)Б).

Узмацніліся колькасна і якасна саўгасы, як рычагі калектывізацыі і фабрыкі вытворчасьці сельска—гаспадарчай сыравіны.

Гэта пацьвярджаюць наступныя лічбы па БССР. Рост калгасаў па плошчы з 1.2% ў 1929 г. да 14,1% у 1930 г., а па пасеву да 15,2%. Колькасьць калгасаў узрасла да 3.035 па БССР, сярэдні разьмер плошчы калгасаў узрос з 46,1 га пахаці ў 1929 г. да 206,4 га у 1930 г. Пасеўная плошча сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі (саўгасы і калгасы) узрасла з 2,4% у 1929 г. да 17,1% на 20 мая 1930 г. Плошча пад саўгасамі з 100 тыс. у 1929 г. да 164 тыс. га у 1930 г.

Пасеўная плошча яравых па ўсіх сэктарах па папярэднім данным у параўнаньні з мінулым годам узрасла на 5%, а ў саўгасах на 34%.

2. Гэты вялікі пералом у справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі забясьпечаны ў выніку буйнага росту сацыялістычнай прамысловасьці, узмацненьня саюзу рабочай клясы з асноўнымі масамі сялянства на базе вытворчай змычкі, рашучага наступленьня

на капіталістычныя элемэнты і пераходу ад ажыцьцяўленьня задачы ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнае калектывізацыі, ў выніку жорсткай і пасьпяховай барацьбы з усякімі ухіламі ад гэнеральнай лініі партыі і асабліва з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і з „левымі“ загібамі і прымірэнствам да іх у выніку рашучага і хуткага выпрамленьня партыей перагібаў і памылак дапушчаных местамі ў справе калектывізацыі.

3. Пленум БРК адзначае, што сельгаслесрабочыя, батрацтва і арганізацыі нашага саюзу ня перавыканалі ўскладзеныя на іх задачы па актыўнаму удзелу ў калектывізацыі і правядзеньні бальшавіцкага вясеньняга севу, што пацьвярджаецца: а) сваячасным заканчэньнем севу ў саўгасах і павялічэньнем яравога кліну на 34% супроць мінулага году. б) Калектывізацыі 25 тысяч батракоў, сярод якіх адсеў амаль не назіраўся, якія аказаліся найбольш моцным ядром у калгасах. в) Актыўнасьць сельгаслесрабочых пацьвярджаецца і тым, што ва ўдарных брыгадах па падрыхтоўцы і правядзеньні вясеньняга севу і па дапамозе ў калектывізацыі удзельнічала да 7214 сельгасрабочых і работніц і 278 чал. прафактыву, пасланага БРК і АК саюзу. У час вясеньняга севу 2160 рабочых і работніц саўгасаў, аб'явіўшы сябе ударнікамі, работалі па ударнаму. Сіламі н/саюзу арганізавана 463 калгасаў, ачышчана насельніцтву 26600 тон зерна і г. д.

4. Надыходзячая уборачная і асеньняя пасеўкампаніі маюць асабліва важнае палітычна—гаспадарчае значэньне і таму павінны быць праведзены па баявому з бальшавіцкімі тэмпамі і настойлівасьцю. Асноўнымі задачамі іх зьяўляюцца: а) Усямернае замацаваньне дасягнутых посьпехаў калектывізацыі і далейшае пасіленьне тэмпаў калектывізацыі з строгім захаваньнем ленінскага прынцыпу добраахвотнасьці уступленьня ў калгас, б) забясьпечаньні разьвіцьця жывёлагадоўлі праз арганізацыю жывёлагадоўчых саўгаскіх і калгаскіх гаспадарак з хутчэйшым вырашэньнем кармавой справы, для чаго яшчэ у гэтым годзе абавязкова засілісаваць 1 міл. тон кармоў, пабудаваўшы сваячасна неабходную колькасьць ям, траншэй і вежаў, в) пашырэньне азімага кліну на 4-5% па індывідуальных гаспадарках і да 10.200 га па саўгасам, а таксама правядзеньне усіх мерапрыёмстваў, вызначаных дырэктывамі партыі і ўраду па запясьпечаньню падвышэньня ўраджайнасьці па індыв'дуальнаму сэктару 6-8%, па калгасам ня менш як на 8 10%. Вызначаныя ўрадам падвышэньні ўраджайнасьці па саўгасам на 8-10%. Пленум БРК прызнае мінімальнымі, высоўвывая як задачу шляхам мабілізацыі актыўнасьці рабочых саўгасаў, забясьпечыць падвышэньне ўраджайнасьці азімых у сярэднім на 15%. Пленум БРК адзначае, што ня гледзячы на выключна важнае палітычнае гаспадарчае значэньне уборачнай і асеньняй пасеўкампаніі, ня ўсе гаспадарчыя, каапэрацыйна—савецкія і прафсаюзныя арганізацыі сваечасна і чотка пабудавалі сваю работу па забясьпечаньню поўнага і сваячаснага правядзеньня ўраджаю асеньняга севу. Так: а) большасьць саўгасаў і калгасаў яшчэ не распрацавала дакладных плянаў уборкі і асеньняга севу, пляны рабочымі і калгасьнікамі не абгавораны і не даведзены да асобнай рабочай брыгады, да кожнага рабочага і калгасьніка. Навакол пасьпяховага правядзеньня уборкі і севу яшчэ зусім слаба мабізавана актыўнасьць усей масы сельгасрабочых і калгасьнікаў слаба яшчэ разгортваецца сацспаборніцтва і ударніцтва, няма патрэбнай шырокай крытыкі і самакрытыкі недахопаў, б) Белсельгаснабам ня выконваюцца заяўкі саўгасаў і калгасаў на шэраг уборачных машын для севу; рамонт уборачных машын ідзе вельмі марудна. Большасьць саўгасаў не забясьпечаны рабсілай органы Наркампрацы не разгарнулі патрэбнай работы па забясьпечаньню саўгасаў патрэбнай рабсілай. в) Зусім нездавальняючы наладжана работа каапэрацыі па забясьпечаньню рабочых прадуктамі харчаваньня і прамтаварамі і асабліва па арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і калгасах. г) Органы ахovы здароўя ня прымаюць належных мер па разгортваньню мэдабслугоўваньня саўгасаў і калгасаў у час уборкі і севу. д) Саўгасы Бельсельтрэсту не забясьпечаны зваротнымі сродка

м на выплату зарплаты, ў выніку чаго ўо зараз маецца сыстэматычная запазчанасьць па зарплаце асабліва падёньнікам (саўгас Гаршэўшчына, Рудобка і інш. за 5 месяцаў), е) Пленум азначае недаацэнку задач і цяжкасьцяў уборачнай асеньняй пасеўкампаніі ў шэрагу гаспадарнікаў і арганізацый нашага саюзу.

Улічваючы задачы уборачнай і асеньняй пасеўкампаніі і наяўнасьць паказаных недахопаў у падрыхтоўцы, Пленум РК пастанаўляе:

6. Пленум аб'яўляе сябе мабілізаваным для работы ў саўгасах і калгасах на ўвесь час уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі.

7. Пленум абавязуе ўсе арганізацыі саюзу разгарнуць па баявому работу па падрыхтоўцы і правядзеньні уборкі і асеньняга севу, мабілізаваць на пасьпяховую уборку ўраджаю і асеньні сеў ініцыятыву і энергію ўсей масы сельгасрабочых і калгасьнікаў. Паставіць мэтай каб ня было ніводнага саўгасу, калгасу без сацыялістычнага спаборніцтва на своечаснае і добраякаснае правядзеньне уборкі і севу, ніводнага саўгасу і калгасу без спаборнічаючых паміж сабой брыгад і груп, ніводнага саўгасу і калгасу без ударных брыгад.

8. Правесьці на працягу 2-х пяціднёвак масавы абгляд падрыхтаванасьці саўгасаў і калгасаў да ўборкі і асеньняга севу. Абгляд падрыхтаванасьці да ўборкі з 8 па 15/VII і да асеньняга севу з 2 па 8/VIII. У час гэтага агляду арганізаваць пробныя выхады на ўборку і севу.

9. НКЗ, Калгасцэнтру, Саўгасаб'яднаньням і ўсім нізавым ячэйкам саюзу прыняць безадкладна рашучыя захады да таго, каб у кожным саўгасе і калгасе не пазьней як да 10/VII было-б скончана складаньне дакладных рабочых плянаў уборкі і не пазьней 25/VII плянаў асеньняга севу з шырокай прапрацоўкай іх на вытворчых нарадах і масавых сходах рабочых саўгасаў і сялян калгасьнікаў.

10. Давесьці да ведама СНГ, што выкананьне заявак на завоз уборачных машын і машын да асеньняга севу знаходзіцца пад пагрозай зрыву. Белсельснабу і НКЗ прыняць усе захады да выкананьня заказаў на машыны, забясьпечыўшы найбольш хуткую іх перадачу ў саўгасы і калгасы.

11. Улічваючы востры недахоп жалеза і запасных частак неабходна мабілізаваць усю увагу рабочай грамадзкасьці саўгасаў, гарадзкой прамысловасьці і калгасьнікаў на выяўленьне і выкарыстаньне на рамонт запасаў жалеза, мэталёвага лому, частак старых машын. Паставіць перад рабочымі саўгасаў і калгасьнікамі задачу сабраць з 2-х ці некалькіх старых нягодных машын адну годную для работы; выяўляць, што з уборачнага інвентару і запасных частак маецца непатрэбнага ў адным саўгасе і калгасе, арганізаваўшы тэрміновую перадачу з лішкаў для выкарыстаньня іншым саўгасам і калгасам.

12. Зьвярнуцца да ЦСПСБ, ЦП Мэталістаў і Чыгуначнікаў аб узмацненьн работы па мабілізацыі ініцыятывы рабочых мэталезаводаў і майстэрань на баявую работу па рамонту сельгасінвентару.

13. Мінімальнымі запатрабаваньнямі па дапамозе саўгасаў калгасам і бедняцка—серадняцкім паспадаркам Пленум вызначае:

1) Арганізацыю кожным саўгасам адной перасовачнай майстэрні па рамонту сельгасінвентару акаляючым калгасам і бедняцка—серадняцкім гаспадаркам і ўстанаўленьня дзеля гэтага 2 і 3-х сменнае работы ў кузьнях і рамонтных майстэрнях саўгасаў на час рамонту і севу.

2) Ачысьціць кожнай зернаачышчальнай машынай саўгасаў у сераднім 30 тон калгаснага і бедняцка—серадняцкага жыта і пшаніцы.

3) Кожны саўгас павінен аказаць дапамогу ва ўборцы і апрацоўцы калгасных і бедняцка—серадняцкіх палёў машынамі і цягавай сілай ня менш, як у разьмеры 40 дзён (машынай і цягавай сілай).

14) Кожнай нізавой ячэйцы саюзу арганізаваць ня менш адной брыгады па дапамозе калгасам і бедняцка—серадняцкім гаспадаркам у падрыхтоўцы і правядзеньні уборкі і асеньняга севу.

15) Усім членам саюзу Сельгаслесрабочых, усім арганізацыям саюзу прыняць актыўны удзел у рабоце па выяўленьню памяшканьняў для прыёму хле-

ба, падрыхтаванасьці зернахавалішчаў і зборы тары.

16) Узьняць перад ЭКАНА пытаньне аб безадкладным забясьпечаньні зваротнымі сродкамі саўгасаў Бельсельтрэсту для ліквідацыі існуючай запазычнасьці па зарплаце і забясьпечаньня бесперабойнай выплаты зэрплаты ў час уборкі і асеньняга севу. Белкалгасбанку і Прэзыдыуму БРК зараз-жа разаслаць на месцы патрэбную колькасьць сродкаў з 2-х міл. рублёў, вызначаных на крэдытаваньне калгасаў для выплаты заработнай платы батракам—калгасьнікам.

17) Прэзыдыуму БРК патрабаваць ад Белкаапсаюзу і рабачкомам ад мясцовых спажывецкіх вобчаств тэрміновага палепшаньня па забясьпечаньню рабочых саўгасаў і батракоў—калгасьнікаў прадуктамі харчаваньня, прамтаварамі, асабліва разгарнуць работу па разгортваньні новых сталовых і палепшаньні работы ўжо існуючых.

18) Паставіць перад НКПБ пытаньне аб прыняцьці рашучых мер у справе забясьпечаньня саўгасаў рабсілай на час уборкі. Зьвярнуцца да ЦК ЛКСМБ і ваенведу з просьбой аказаць дапамогу саўгасам рабочай сілай на час уборкі ўраджаю.

19) Патрабаваць ад НКАховы Здароўя і яго мясцовых органаў зараз-жа прыняць захады, па разгортваньню мэдаабслугоўваньня саўгасаў і калгасаў у час уборкі і севу. У першую чаргу забясьпечыўшы мэдыкаментамі, патрэбнымі для першай дапамогі (іод, бінты).

20) Адзначаючы наяўнасьць у час вясеньняга севу шэрагу выпадкаў недобраякаснага выкананьня песеўных работ, парушэньня працдысцыпліны, Пленум абавязуе ўсе арганізацыі саюзу і гаспадарнікаў шырока разгарнуць барацьбу за добраякаснае і своечаснае правядзеньне ўсіх уборачных і пасеўных работ, за жорсткую працдысцыпліну, рашуча змагаясь з выпадкамі прагулаў лодырнічаньня, рвацтва і г д.

21) Адзначаючы асобна важную ролю сельгасспэцыялістых у правядзеньні уборкі і асеньняга севу, Пленум БРК заклікае ўсіх спэцыялістых сельскай гаспадаркі да найбольшага напруджаньня энергіі і ініцыятывы на выкананьне задач, пастаўленых партыяй, урадам у час уборачнай кампаніі і асеньняга севу. Пленум абавязуе ўсе саюзныя арганізацыі забясьпечыць найбольш спрыяючыя умовы спэцыялістых у час уборкі і асеньняга севу. Па прыкладзе вясеньней пасеўнай кампаніі правесьці мабілізацыю 50% аграномаў, якія працуюць у гарадох, для пасылкі ў саўгасы для аказаньня арганізацыйнай і вытворчай дапамогі ў час уборачнай і асеньняй пасеўкампаніі.

## ПАСТАНОВА

### Пленуму БРК саюзу СГЛР па дакладу аб спэцыялізацыі саўгасаў і кантрольных лічбаў на 1930/31 г.

Заслухаўшы даклад аб спэцыялізацыі саўгасаў і аб кантрольных лічбах на 1930/31 г., Пленум Рэспубліканскага Камітэту Саюзу Сельгаслесрабочых БССР адзначае:

1. Саўгасы адыгрываюць вялізарную ролю ў справе рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, зьяўляючыся буйнымі гаспадаркамі пасьлядоўна - сацыялістычнага тыпу. Саўгасы маюць цэлы шэраг дасягненьняў:

а) Узрасла зямельная плошча з 99 тысяч га ў 1929 г, да 164 тыс. га ў 1930 г.

б) ўзрасло пагалоўнае стада жывёлы (буйная рагатая жывёла—дарослая а 8500 на 1/VII-29 г. да 17500 на 1/V-30 г.. маладняка - цялят з 4840 да 13400 штук).

в) Значна ўзрасьлі капітальныя ўкладаньні ў гаспадарчае і жыльлёвае будаўніцтва, ў зьвязку з чым некалькі палепшылася становішча рабочых саўгасаў (у 1929 г. 4.313.000 р. у 1930 г. 21 000.000 р.).

г) Павялічыўся кадр сталых і сэзонных рабочых, занятых у саўгасах з 5.545 на 1/VII-29 г. да 11.800 на 1/V-30 г.

д) Саўгасы аказваюць параўнаўча значную дапамогу акаляючаму сялянству ў пераводзе бедняцка-серэдняцкіх гаспадарак у калгасы. (У вясну 1930 г. абсышчана насеньня калгасам і беднацка-

серэдняцкім гаспаркам 26.600 тон, апрацавана 3.900 га, дано ў карыстаньне 9.900 дзён сельска-гаспадарчых машын).

2. Побач з дасягненьнямі ў працы саўгасаў ёсьць і цэлы шэраг недахопаў. Галоўным, недахопамі зьяўляюцца:

а) Яшчэ вельмі нізкая ўраджайнасьць па цэламу шэрагу саўгасаў і культур, з прычыны чаго і нізкая таварнасьць.

б) Яшчэ да гэтага часу пытаньнем арганізацыі працы ў саўгасах удзелялася зусім мала ўвагі, што адбіваецца на сабекошту прадукцыі.

в) Нізкі ўзровень тэхнічных кадраў у саўгасах і слабая забясьпечанасьць і і кадрамі наогул.

г) У шэрагу саўгасаў наглядаецца недапушчальная бесгаспадарчасьць.

д) Сацспаборніцтва яшчэ не зьяўляецца мэтадам павялічэньня якасных паказчыкаў у рабоце саўгасаў у выкананьні і перавыкананьні вытворчых плянаў. Няма яшчэ патрэбнай плянавасьці ў працы кожнага паасобнага саўгасу.

е) Фінансавая становішча Белсельтрэсту і асобных яго гаспадарак надзвычайна напружанае.

ж) У асноўным саўгасы зьяўляюцца прыкладам вядзеньня буйнай гаспадаркі але ёсьць прыклады, калі саўгас яшчэ не зьяўляецца ўзорам для акаляючых калгасаў і бедняцка-серадняцкіх гаспадарак.

з) Працэсы мэханізацыі вытворчасьці адбіваюцца вельмі марудным тэмпам.

і) Аб'ём капітальнага будаўніцтва ў галіне гаспадарчай і жыльлёва-культурнай не адпаведае мінімальным запатрабаваньням разьвіцьця саўгасаў.

к) Правадзімы да гэтага часу тэмп узбуйненьня саўгасаў не дае гарантыі для выкананьня пастановы кіруючых органаў аб давядзеньні плошчы пад саўгасамі ў гэтым годзе да 200 тысяч га.

л) Пытаньнем саўгаснага будаўніцтва яшчэ да гэтага часу ўдзяляецца недастаткова ўвагі з боку мясцовых органаў, ёсьць выпадкі недаацэнкі іх ролі.

м) Актыўнасьць рабочых на выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў у саўгасах мабілізавана зусім слаба. Ёсьць шэраг прарываў працдысцыліны і навогул працдысцыпліна яшчэ слабая. Не праведзена адзінаначальле. Ня ўсюды наладжан бесперапынны рабочы тыдзень

3. Выкананьне надзвычайна важных гаспадарчых задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад саўгасамі; вырашэньне жывёлагадоўчых праблем, асабліва сьвінагадоўлі, палепшаньне снабжэньня гарадоў, павялічэньне таварнай частцы прадукцыі вырабляемай саўгасамі, магчыма толькі пры вузкай спэцыялізацыі саўгасамі па асноўным вядучым галінам сельскай гаспадаркі. Надзвычайны унівэрсалізм у гаспадарчай дзейнасьці саўгасаў, існаваўшы да гэтага часу, дрэнна адбіўся на вядзеньні ўсей гаспадаркі саўгасаў і выкананьне якасных пакасчыкаў, а таму Пленум лічыць, што далейшае разьвіцьцё саўгасаў і выканаьне ўскладзёных на іх адказных гаспадарча-палітычных задач магчыма толькі пры вузкай спэцыялізацыі саўгасаў па тром галоўнейшым галінам: а) жывёлагадоўлі (сьвінагадоўлі, малочна—прадукцыйная жывёлы, б) насеньневодства і значнага павялічэньня сырцовай базы для льняно-пеньковай і в) бульбяна-апрацоўвючай прамысловасьці, з улічам спэцыялізацыі па паасобным сельска-гаспадарчым раёнам.

4. Пленум лічыць правільным спэцыялізацыю саўгасаў па лініі арганізацыі 4-х асноўных спэцыялізаваных саўгаса-аб'яднаньняў (Белсаўгастрэст, Сьвінавод, Насентрэст, Ільно-Пеньковае аб'яднаньне

5) Асноўнымі агульнымі задачамі саўгасаў БССР на 1930/31 г. Пленум вызначае: давядзеньне тэрыторыі пад саўгасамі да разьмераў сапраўднай буйнай сацыялістычнай фабрыкі, мэханізацыя значнай часткі вытворчых працэсаў, арганізацыя цэлага шэрагу новых буйных саўгасаў, з тым каб агульная плошча пад саўгасамі была давэдзяна: па Белсаўгастрэсту да 180 тыс. га, з яе пад пасевам 54 тыс. га, па Сьвінаводу—110 тыс. га, з яе пад пасевам 65.250 га, Насентрэсту—27.230 га, з яе пад пасевамі 18 тыс. га і Ільно - Пеньковага Аб'яднаньня—60.500 га з яе пад пасевамі 10500 га.

6) Давесьці гаспадарчае, жыльлёва-культурнае будаўніцтва і наогул капітальныя ўкладаньні да разьмераў, неабходных для выкананьня тых аадач, якія пастаўлены перад спэцыяльнымі трэстамі партыяй і ўрадам, вызначыўшы аб'ём капітальных укладаньняў: па Белсаўгастрэсту ў 40 міл. рублёў. Сьвінаводтрэсту—

27.207 р. Ільно-Пеньковаму Аб'бднаньню —12 міл. руб., Насентрэсту—5181 тыс. р. зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на эфэктыўнасьць і хуткасьць капітальных укладаньняў.

7. Асаблівая ўвага пры выкананьні вытворчых пляна ў павінна быць зьвярнута на поўнае выкананьне якасных паказчыкаў гэтага пляну. Мінімальнымі ўстаноўкамі ў гэтым напрамку павінна зьяўляцца зьніжэньне сабекаштоўнасьці вырабляемай прадукцыі да 25⁰/₀, узьняцьце вытворчасьці працы ня менш да 30⁰/₀, рост ураджайнасьці па галоўных культурах да 25⁰/₀ і на падставе гэтага павінна няўхільна расьці зарплата.

На выкананьне гэтых важнейшых паказчыкаў працы саўгасаў павінна быць мабілізавана ўвага ўсіх рабочых саўгасаў, прафарганізацыі і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу.

8. Канкрэтнымі задачамі саўгасаў Сьвінавода на 1930/31 г. Пленум вызначае наступныя: да вядзеньня матачнага ядра па сьвіньнях да 50 тыс. галоў, са здачай таварнай прадукцыі да 190 тыс. штук, што патрабуе поўнага выкананьня, як мінімальнай праграмы будаўніцтва 1930 г., так і павялічэньня прынятай праграмы па ўкамплектаваньні сьвінаматкамі; ўзбуйненьне і арганізацыя новых спэцыялізаваных сьвінаводных гаспадак і прыстасаваньне іх, рэарганізацыя іх. Рашучае палепшаньне становішча з забясьпечанасьці кіруючымі і тэхнічнымі кадрамі.

9. Па лініі Белсаўгастрэсту асноўнымі задачамі Пленум вызначае: павялічэньне малочна-прадукцыйнай жывёлы (дойных кароў) з 10 тыс. да 23 тыс., зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на якасьць і таварнасьць малочна-прадукцыйнага стада; шляхам павялічэньня ўдзельнае вагі ў пасеўнае плошчы па тэхнічнымі культурамі—скласьці больш поўную сырцовую базу для працы тэхнічных прад. прыемстваў (бульбяна - апрацовачныя). Для стварэньня большых магчымасьцяў да павялічэньня харчаваньня гарадоў лічыць неабходным значна павялічыць аб'ём вытворчасьці існуючых птушкатрусаводчых заводаў, давёўшы вырашчаваньня птушак і трусоў у гэтых саўгасах. Па птушках—з 13 тыс. штук гэтага году да 160 тыс. штук; па трусах з 5 тыс. штук—да 33 тыс. штук.

Так сама арганізаваць ня менш 6 новых птушка-трусаводчых саўгасаў прамысловага напрамку, абхватам усіх ........ штук.

Саўгасы Белсаўгастрэсту павінны вылучаць адпаведную колькасьць буйных саўгасаў спэцыялізаваных па вырашчываньню маладняку, давёўшы колькасьць цёлак з 9 тыс. у гэтым годзе да 34 тыс. штук у 1930/31 г.

10. Асноўнымі задачамі насенсаўгасаў Насентрэсту па БССР вызначыць:

а) Максымальнае спэцыялізацыя іх, з давядзеньнем пасеву спэцыяльных культур на старых плошчах да 45 ⁰/₀

б) Давядзеньня зямельнай плошчы, старых саўгасаў (адміністрацыйныя адзінкі) ня менш як да 2500 га пахатнай зямлі кожнага.

в) Арганізацыю новых гаспадарак ня меньш як у 5.000 га у кожнай на вышуканых зямельных фондах, з тым каб агульная пасеўная плошча ў 1930/31 годзе была даведзена да 20 тыс. га, з агульна вызначаных 50.000 га плошчы.

г) Найбольшую мэханізацыю ўсіх сельска-гаспадарчых працэсаў і насеннай прадукцыі у прыватнасьці.

д) Арганізацыю снабжэньня БССР дэфіцытным насеньнем тэхнічных культур.

11. Адзначаючы надзвычацна дрэнна становішча з падрыхтоўкай саўгасаў да будаўніцтва у гэтым годзе, што ставіць аснаўныя аб'екты будаўніцтва пад пагрозу зрыву, (адсутнасьць неабходных дэфіцытных будаўнічых матар'ялаў, тэхнічных кадраў для кіраўніцтва будаўніцтвам, спазьненьне з зацьверджаньнем канчатковага аб'ёму будаўніцтва) -пленум, выходзячы з таго, што ў гэтым годзе аб'ём будаўнічых работ павялічваецца у некалькі разоў, зварочвае увагу усіх саўгаскіх аб'яднаньняў на неабходнасьць побач з мабілізацыяй увагі да будаўніцтва г. г., зараз-жа пачаць падрыхтоўку да будаўніцтва 1930/31 гаду з тым, каб усе недахопы бягучага будаўнічага сэзону былі поўнансьцю зьнішчаны. Асаблівую увагу трэба зьвярнуць на спрашчэньне тыпаў будаўніцтва, значнае скарачэньне каштоўнасьці будаўніцтва, палепшаньне якасьці будаўніцтва і забясьпечаньню яго

неабходнымі тэхнічнымі кадрамі. Пленум лічыць неабходным, каб аснаўная маса будаўнічых работ у гэтым годзе праводзілася выключна праз Белгасбуд, на узмацненьне якога таксама неабходна зьвярнуць адпаведную увагу.

12. Улічваючы вялізарна намечаны тэмп росту жывёлагадоўлі і асутнасьці неабходнай кармавой базы для выкананьня заданьняў у галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі, пленум зварочвае увагу усіх саўгаскіх аб'яднаньняў, рабочых калектываў на неабхоўнасьць стварэньня у ласнай кармавой базы (грубых кармоў).

Побач з паляпшэньнем сенажацяў і выгану з мэтай павялічэньня травастою і атрыманьня зялёнай масы, асаблівая увага ў бліжэйшы час павінна быць зьвернута на пытаньне сіласаваньне з тым, каб ужо ў гэтым годзе па саўгасах сабраць сіласнай масы ў разьмеры 125 тыс. тон, а ў наступным годзе накожную галаву буйнай рагатай жывёлы мець ў саўгасах ня менш, як дзьве тоны сіласнай масы.

13. Колькасць занятых рабочых ў саўгасах сельгасаб'яднаньняў павінна ўзрасьці з 16.000 чал., з якіх праца часовых 26, 7% да 31.000 чал., у якіх праца часовых павінна складаць ня звыш 20 %.

Рабачкомам і кіраўнікам саўгасаў справе ўкамплектаваньня саўгасаў кадрамі сталых і сэзонных рабочых, плянавага забясьпячэньня часавай рабсілай удзеліць значна большую увагу.

Узмацніць увагу да сацыяльнага падбору складу рабочых, забясьпечыў укамплектаваньне пераважна і ў першаю чаргу за лік батрацтва.

14. Выдаткі на жыльлёвае, культур нае будаўніцтва вызначыць:

| | На жыл. будаўніцтва | Пабудаваць дамоў | На будаўніцтва клюбаў сталовак і ясьляў | Пабуд. клюбных адзінак |
|---|---|---|---|---|
| Па сьвінаводу | 5.533.000 р. | 254 | 720.000 р. | 15 |
| „ Насентрэсту . . . | 927.000 р. | 18 | 306.000 р. | 5 |
| Па Белсаўгастрэсту . . | 3.000.000 р. | 230 | 400.000 р. | 10 |

15. Адзначаючы яўна нездавальняючае становішча з кіруючымі тэхнічнымі і масова рабочымі кадрамі, пленум БРК саюзу СГЛР катэгарычна паказвае:

а) На неабходнасьць у бліжэйшы час дабіцца паляпшаньня кіруючага складу дырэктароў саўгасаў, павялічаўшы % партыйцаў, праз мабілізацыю адказных працаўнікоў, больш шырокае вылучэньне і падрыхтоўкі сельгасрабочых. Як мінімум павінны быць здаволены наступныя запатрабаваньні: для Белгастрэсту 75 дырэктароў, сьвінаводаў 50 і насентрэсту 9 дырэктароў.

б) Палепшыць забяспечаньня тэхнічнымі кадрамі саўгасаў, шляхам пераразьмеркаваньня тэхнічных кадраў падвышэньнем кваліфікацыі ніжэйшых тэхнічных кадраў і вылучэньнем іх на больш адказную тэхнічнаю работу, арганізацыі спэцыяльных навучальных устаноў і курсаў. Рашуча палепшыць забсьпячэньне тэхнічнымі кадрамі сярэдняй кваліфікацыі ў спэцыялізаваныя саўгасы. Гэтыя мерапрыемствы павінны папоўніць саўгасы тэхнічнымі кадрамі на 167 аграномаўпаляводаў, 120 вэтурачоў, 160 зоотэхнікаў, 100 тэхнікаў-сьвінароў і 460 бухгальтароў-рахункаводаў.

в) Разгарнуць з тэмпамі поўнага за бясьпячэньня у 1931 г. падрыхтоўку патрэбных ніжэйшых тэхнічных кадраў масавай кваліфікацыі, падрыхтаваўшы: трактарыстых 1670, старшых сьвінароў 300, вэтсанітараў 300, старэйшых скотнікаў 180, даільшчыц 500, машыністаў-сьлесароў 100, сыраваpаў 100, садовых рабочых 100, старшых рабочых 100.

г) Павялічыць сетку школ сельскагаспадарчага вучнёўства да разьмеру ня менш 60% ахопу ў 1931 годзе усіх бронь-падлеткаў.

д) З мэтай падвышэньня тэхнічнай кваліфікацыі прапусьціць у 1930/31 годзе праз каротка—тэрміновыя курсы ў саміх саўгасах усіх рабочых і работніц.

16. У мэтах разгортваньня дасьледчай справы ня менш як у 3-х буйных саўгасах па кожнай акрузе павінны быць арганізованы дасьледчыя вучасткі.

17. Абавязаць саўгасаб'яднаньні, кіраўнікоў, рабачкомы саўгасаў і Прэзыдыум БРК шырока разгарнуць мерапрыёмствы па лепшай арганізацыі працы па разгортваньню зьдзельшчыны.

Для кіраваньня і практычнае дапамогі саўгасам у справе арганізацыі працы саўгасаб'яднаньні безадкладна павінны стварыць у сябе моцныя групы эканомікі і арганізацыі працы. Пленум даручае Прэзыдыуму сумесна з саўгасааб'яднаньнямі вызначыць у кантрольных лічбах і вытворчых плянах саўгасаў дакладныя процанты і пералікі работ, якія павінны праводзіцца зьдзельна.

18. Выкананьне кантрольных лічб у саўгасах можа быць забясьпечана толькі пры ўмове мабілізацыі актыўнасьці ўсей рабочай масы саўгасаў, шляхам сапраўднага шырокага разгортваньня сацспаборніцтва, шляхам вызначэньня пэўных вытворчых заданьняў кожнай асобнай групай, кожнаму паасобнаму рабачкому. Таму пленум даручае Прэзыдыуму БРК, усім рабочым кмітэтам саўгасаў і кіраўніцтвам саўгасаб'яднаньняў на справу арганізацыі практычнай дапамогі і кіраўніцтва спаборніцтвам і ўдарніцтвам у саўгасах зьвярнуць асабівую ўвагу.

19. Пленум даручае Прэзыдыуму і Саўгасаб'яднаньням забясьпечыць абгаварэньне кантрольных лічбаў і складзеных на іх аснове вытворчых плянаў саўгасаў усей масай рабочых саўгасаў на вытворчых нарадах і агульных сходах. Побач з гэтым забясьпечыць шырокае асьвятленьне асноўных паказчыкаў кантрольных лічбаў і задач саўгасаў у друку, ў прыватнасьці ў газэце „Сельска-Гаспадарчы Рабочы Беларусі".

20. Ажыцьцяўленьне задач пастаўленых у кантрольных лічбах і адказнейшых задач па спэцыялізацыі саўгасаў мажліва толькі пры ўмовах усямернага ўзьняцьця палітычнага ўзроўню і вытворчай пісьменасьці усей масы саўгасаў, таму Пленум БРК, як адну з галоўнейшых задач, вызначае задачу сапраўдна шырокага разгортваньня культурна-масавай палітыка-выхаваўчай у саўгасах, забясьпечыўшы ў ей перабудову ў напрамку садзейнічаньня барацьбы за выкананьне вытворчага пляну, за ўсямернае ўзмацненьне працдысцыпліны, мабілізацыі бачнасьці рабочых на барацьбу з усялякімі спробамі шкодніцтва, рвацтва, хвасьцізму.

Пленум даручае Прэзыдыуму вызначыць шэраг практычных мер па разгортваньню культурна-масавай палітыка-выхаваўчай работы ў саўгасах, палепшыў практычную дапамогу і кіраваньне гэтай работай.

21. Пленум заклікае ўсіх рабочых саўгасаў і спэцыялістых да сапраўды шырокага разгортваньня крытыкі і самакрытыкі навакол пытаньняў гаспадарчага будаўніцтва саўгасаў з тым, каб крытыка і самакрытыка стала сапраўды штодзённым мэтадам барацьбы з усялякімі прарывамі і перашкодамі на шляху выкананьня і перавыкананьня вытворчых плянаў.

22. Пленум даручае Прэзыдыуму ў бліжэйшы час прапрацаваць пытаньні аб становішчы і далейшым разьвіцьці саўгасаў і ЦРК, Навукова-Даследчага Інстытуту, саўгасаў пры навучальных установах і НК Унутраных спраў.

## ПАСТАНОВА

### Пленуму БРК саюзу сельгаслесрабочых аб выніках калектывізацыі батрацтва і ўдзелу саюзу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп.

Заслухаўшы даклад тав. Манжалея аб выніках калектывізацыі батрацтва і ўдзелу саюзу ў рабоце батрацтва бедняцкіх груп, V-ы Пленум БРК саюзу Сельгаслесрабочых адмячае, што:

1. Нявыканана дырэктыва партыі і Беларускага Рэспубліканскага Камітэту саюзу СГЛР аб калектывізацыі батрацтва і замест намечаных па пляну к вясьне 1930 г. калектывізаваць 60 тысяч батракоў, у калгасы ўцягнута ўсяго толькі 25 тысяч, пагэтаму работу саюзных арганізацый у гэтым напрамку Пленум лічыць зусім нездавальняючай.

Уцягнутыя ў калгасы батракі аказаліся найбольш моцным і ўстойлівым ядром, адліва-ж батракоў з калгасаў ня прыкмечалася за выключэньнем асобных выпадкаў. Нявыкананьне дырэктыў па калектывізацыі батракоў Пленум тлумачыць галоўным чынам: а) слабай работай зьверху і да нізу нашых саюзных арганізацый; б) кепскім правядзеньнем масавай і палітыка-выхаваўчай ра-

боты сярод батрацтва; в) несваячасовым і часта не па прамому прызначэньню скарыстаньнем адпушчаных крэдытаў (2.000.000 руб.) і безузваротнай дапамогі (150000 р.) для батракоў-калгасьнікаў; г) дрэнным абслугоўваньнем культурна-бытавых умоў батракоў-калгасьнікаў (жыльлё, прадукты, сталовыя) і слабай увагай і недастатковай дапамогай з боку ўсіх сельскіх і большасьці раённых арганізацый у справе калектывізацыі батракоў.

2. Пленум прызнае зусім нездавальняючым і недапушчальна слабым удзел усіх саюзных арганізацый і асабліва райпрафкомаў і сельрабачкомаў у рабоце батрацка-бедняцкіх груп. Яшчэ і да гэтага часу няма патрэбнага пералому з боку саюзных ячэек і райінструктарскага апарату к гэтаму важнейшаму пытаньню. Моцна ўкараніліся шкодныя настроі ў большасьці саюзных арганізацый, што работу з беднатой павінна праводзіць адна партыя. Нашы нізавыя саюзныя ячэйкі ня ўцямілі, што работа з беднатой і ў першую чаргу батрацка-бедняцкіх груп ёсьць важнейшая задача саюзу. Кожная саюзная ячэйка, кожны член нашага саюзу павінны ведаць і актыўна выконваць дырэктывы партыі, ў якіх сказана: што „прафсаюзы і шэфскія арганізацыі ў значна большай ступені павінны сваю работу ў вёсцы ўвязаць з задачамі дапамогі мясцовым арганізацыям па ўзмацненьню і палепшаньню работы арганізацыі батрацтва і беднаты“. Што толькі сельска-гаспадарчы пралетарыят зьяўляецца асноўным атрадам рабочай клясы на вёсцы, які павінен разам з беднатой,—апорай рабочай клясы,—пад кіраўніцтвам партыі, забясьпечыць існаваньне пралетарскай клясавай лініі ва ўсім палітычным і гаспадарчым жыцьці вёскі „і XIII зьезд камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі са ўсей рашучасьцю і катэгарычнасьцю пацкрэсьліў, што пасьпяховае ажыцьцяўленьне задач партыі ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі патрабуюць ад унекалгаснага сэктару далейшага ўзмацненьня работы з беднатой і ажыцьцяўленьня палітыкі саюзу з серадняком“.

3. Пленум БРК рашуча асуджае недаацэнку значэньня работы з беднатой і пасыўнасьць саюзных ячэек на гэтым важнейшым вучастку работы, як праяву правага ўхілу на практыцы і прымірэнства да яго. Пленум заклікае ўсіх членаў саюзу СГЛР да шырокага і поўнага ўдзелу і актыўнай працы з беднатой і па ўзмацненьню батрацка-бедняцкіх груп пры калгасах, сельсаветах, Кам. Сял. Вобч. Узаемадапамогі каапэрацыі і г. д.

Ні воднага батрака, ні воднага члена саюзу ўне актыўнага ўдзелу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп. Ні воднай саюзнай ячэйкі без актыўнага сыстэматычнага і плянавага ўдзелу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп.

4. Пленум прапануе Прэзыдыуму і ўсім саюзным арганізацыям кіравацца наступнымі дырэктыўнымі паказаньнямі:

а) У месячны тэрмін правесьці поўны вучот усіх батракоў не калгасьнікаў, якія заняты на часовых і сэзонных работах (мэліарацыя, торфа распрацоўкі, сплаў, дарожнае будаўніцтва і г. д.) і шляхам узмацненьня тэмпаў калектывізацыі прыняць усе меры к таму, каб да восені, г. зн. к часу аслабаненьня батракоў ад сэзонных работ, асноўныя масы батрацтва былі-б уцягнуты ў калгасы і каб на зіму не засталося ні воднага батрака беспрацоўным. Калектывізацыю батрацтва праводзіць на аснове добраахвотнасьці і глыбокай масавай растлумачыцельнай работы пад лёзунгам:—Ні воднага батрака ўне калгасаў.—Кожны член саюзу завярбуй аднаго батрака ў калгас.

б) Абавязаць усе райсельрабачкомы, прафкомы і рабачкомы саўгасаў ня менш аднаго разу в 1-1/2 м-ца на сваіх паседжаньнях падводзіць вынікі таму, што імі зроблена ў справе правядзеньня работы па калектывізацыі батрацтва і працдагаворнай кампаніі.

в) У двух тыднёвы тэрмін пры дапамозе партыйных, савецкіх і калгасных арганізацый павінна быць праведзена ва ўсіх раёнах БССР, масавае абследваньне становішча матар'яльна-бытавых умоў батракоў-калгаснікаў і зьнішчаны ўсе маючыяся ў гэтым напрамку недахопы (несваячасовая выдача зарплаты, прадуктаў харчаваньня, дэфіцытных тавараў, кепскі жыльлёвыя ўмовы і г. д.). Пасьля абсьледваньня склікаць, але каб

не пашкодзіць уборачнай кампаніі) па-райёныя і куставыя злёты батракоў-калгасьнікаў з прапрацоўкай наступных пытаньняў: 1) Задачы батракоў-калгаснікаў ва ўборачнай і весеньня-пасеўнай кампаніі; 2) Роля батракоў калгасьнікаў ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп; 3) Зьнішчэньне недахопаў па матар'яльна-бытавому абслугоўваньню батракоў калгасьнікаў.

г) Зьвярнуць увагу Наркомгандлю на тое, што далёка няпоўнасьцю і ня ўсімі каапэрацыйнымі арганізацыямі выконваецца пастанова СНК БССР ад 2 сакавіка 1930 г. па частцы забясьпечаньня батракоў-калгасьнікаў дэфіцытнымі таварамі.

д) Зьвярнуць увагу Прэзыдыуму ЦК КСУ на тое, што многімі камітэтамі ўзаемадапамогі нявыканана дырэктыва аб выдзяленьні грашовага фонду для аказаньня бязузваротнай адзіначасовай дапамогі батракам-калгасьнікам.

е) Давесьці да ведама СНК БССР аб тым, што ўсей сыстэмай спажывецкай і сельска-гаспадарчай каапэрацыі зьверху і да нізу, ўключаючы Праўленьне Белкаапсаюзу і Белпаляводсаюзу нявыканана дырэктыва партыі і Ўлады аб 100% каапэрыраваньні батракоў і беднаты к пачатку 1930 г. і што ні Белкаапсаюз, ні Белпаляводсаюз, ні іх нізавыя арганізацыі няведаюць аб ступені каапэрыраваньні батрацтва і беднаты і з восені 1929 г. гэтай работай не займаюцца, а фонды каапэрыраваньня часта ляжаць нявыкарыстанымі, ці скарыстоўваюцца не па прамому прызначэньню. Прасіць СНК БССР у бліжэйшы час заслухаць даклады аб каапэрыраваньні беднаты і батрацтва і даць адпаведныя паказаньні каапэрацыйным арганізацыям.

### Па ўдзелу саюзу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп.

XIII-ы зьезд КП(б)Б у сваей пастанове падкрэсьліў, што „сацыялістычная перабудова сельскай гаспадаркі па шляху калектывізацыі зьвязана з прэдаленьнем вялікіх цяжкасьцяў і з абвастрэньнем клясавай барацьбы на вёсцы... Зьезд лічыць зусім нездавальняючай работу партарганізацыі сярод беднаты наогул і ў прыватнасьці па арганізацыі і кіраўніцтву работай батрацка-бедняцкіх груп...“ Пленум БРК прапаную ўсім саюзным арганізацыям утварыць рашучы перелом і неадкладна прыняць самы актыўны ўдзел у справе дапамогі партыі па наладжваньню і ўзмацненьню работы з беднатой і ў першую чаргу батрацка-бедняцкіх груп. На масавых сходах батрацтва і беднаты трэба поўнасьцю растлумачыць ім ролю і значэньне батрацка-бедняцкіх груп і задачы батрацтва і беднаты ў наладжваньні і ўзмацненьні гэткіх.

Адабраючы рашэньні Прэзыдыуму ад 8 сакавіка 1930 г. (глядзі бюлетэнь) аб удзеле саюзу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп, Пленум паказвае ўсім саюзным арганізацыям на неабходнасьць рашучага і цьвёрдага правядзеньня ў жыцьцё паказанай пастановы. Адначасова з гэтым Пленум прпануе па рабоце батрацка-бедняцкіх груп, кіравацца і хутка праводзіць у жыцьцё наступныя дырэктывы:

а) У тых пунктах, дзе няма партыйных ячэек, а маюцца райпрафкомы, сельрабчкомы, рабачкомы саўгасаў, лясьніцтва і г. д., дык апошнія павінны неадкладна прыступіць да арганізацыі груп беднаты, калі гэткія ня складзены, пры калгасах, сельсаветах, КСУ, каапэрацыі і другіх выбарчых органах. У гэтых пунктах (дзе няма партячэек) уся работа батрацка-бедняцкіх груп павінна праводзіца пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, а там ў прафарганізацыі павінны трымаць сталую цесную сувязь з бліжэйшымі партыйнымі ячэйкамі і атрымліваць ад іх практычныя паказаньні аб тым, як арганізаваць, наладзіць і кіраваць работай груп беднаты. Там-жа, дзе маюцца партыйныя ячэйкі, абавязак нашых саюзных арганізацый павінен сводзіцца да сыстэматычнай і актыўнай дапамогі ў рабоце бедняцка батрацкіх груп.

б) У працягу ліпеня месяца на ўсіх пашыраных сходах саюзных арганізацый павінны быць падрабязна прапрацаваны асноўныя рашэньні партыі аб задачах работы з беднатой і асабліва батрацка-бедняцкіх груп, і намечаны практычныя пляны работ кожнай саюзнай ячэйкі ў гэтай галіне.

в) Усе саюзныя ячэйкі на сваіх пашыраных паседжаньнях з прыцягненьнем батракоў і беднаты павінны ня менш аднаго разу ў 2 месяцы падводзіць вынікі свайго ўдзелу ў рабоце батрацка-бедняцкіх груп.

г) Акругавыя і раённыя інструктары павінны жывым удзелам, дапамогай і інструктаваньнем аказаць патрэбнае садзейнічаньне нізавым саюзным ячэйкам ў справе ўзмацненьня работы батрацка-бедняцкіх груп. Кожная саюзная арганізацыя, кожны акруговы і раённы інструктар нясуць поўную адказнасьць перад БРК саюзу за сваячасовую арганізацыю і наладжваньне работы батрацка-бедняцкіх груп, як аднэй з важнейшых задач саюзнай работы.

д) XIII-ы зьезд КП(б)Б прызнаў „недастатковы рост партыі ў вёсцы, ў першую чаргу за лік сельска-гаспадарчых рабочых і батракоў“. Пагэтаму Пленум зьвяртае ўвагу ўсіх саюзных арганізацый на значнае ўзмацненьне работы па падняцьцю культурна-палітычнага ўзроўню і ў першую чаргу беспартыйных батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых, шляхам аргаізацыі гурткоў (газэтнага, бягучай палітыкі і г. д.), ўзмацнёнай работы па ліквідацыі няпісьменасьці і шырокага наведваньня партыйных і камсамольскіх сходаў. Асобая ўвага саюзных арганізацый павінна быць зьвярнута на аказаньне дапамогі (ў тым ліку і матар'яльнай) партыйным ячэйкам і райкомам партыі па арганізацыі палітшкол і паліткурсаў, як адным з заходаў дапамагаючым росту партыі.

е) Пленум даручае Прэзыдыуму дабіцца за мест праводзімага ў сучасны момант адзіночнага інструктыўнага выезду на месца—ўстаноўленьня брыгаднага і плянавага інструктаваньня і дапамогі нізавым ячэйкам (інструктарскі склад—БРК,ЦВК, Калгасцэнтр, Белкаапсаюз, Белпаляводсаюз і г. д.) і забясьпечыць саюзныя арганізацыі адпаведнай кіруючай літературай па рабоце з беднатой і батрацка-бедняцкіх груп.

ж) Пленум абавязвае ўсе саюзныя арганізацыі ў 2-х тыдневы тэрмін прапрацаваць на сваіх паседжаньнях гэту пастанову, намеціць плян сваей работы і мабілізаваць ўвагу, ўсей саюзнай масы на рашучае палепшаньне работы з беднатой і ў першую чарду батрацка-бедняцкіх груп.

## ПАСТАНОВА

### Пленуму БРК СГЛР па дакладу аб падрыхтоўцы кадраў для сельскай і лясное гаспадаркі БССР і прафкадраў.

Заслухаўшы даклад Дзяржпляну БССР (т. Аўхіменя) і Сэктараў кадраў БРК СГЛР (т. Башмачнікава), аб падрыхтоўцы кадраў для сельска і лясной гаспадаркі БССР у разрэзе пяцігодкі, пад кутом пагляду выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і рэалізацыі пастановы XIII-га зьезду КП(б)Б аб давядзеньні плошчы саўгасаў Беларусі да 600 тысяч га, рэарганізацыі лясной гаспадаркі, а таксам суцэльнай калектывізацыі БССР да канца пяцігодкі,—Пленум БРК СГЛР канстатуе, што справа падрыхтоўкі пралетарскіх кадраў яшчэ да гэтага часу зьяўляецца „вузкім месцам“ сацыялістычнага будаўніцтва і надзвычайна адстае ў тэмпах ад агульнага размаху сацыялістычна перабудовы сельскае і лясной гаспадаркі.

Забясьпечаньне спэцыялістамі ў сучасны момант зьяўляцца зусім недастатковым (лясная гаспадарка забясьпечана спэцыялістамі на 70%, калгасная сыстэма—ня больш як на 25% і г. д.). Адначасова Пленум з усей рашучасьцю адзначае, што і вучот налічных кадраў спэцыялістых у гаспадарчых арганізацыях пастаўлен надзвычайна дрэнна (Белсельтрэст, Калгасцэнтр), што можа прывесьці да грубейшых памылак у справе падрыхтоўкі кадраў і правалянньня гэтай работы.

Ня гледзячы на некаторы пералом у справе падрыхтоўкі кадраў у бягучым годзе (за мінулы год у навучальныя ўстановы і на розныя курсы адным толькі саюзам СГЛР было паслана 1197 асоб, а ў бяг. годзе гэта лічба павялічваецца да 5.500 асоб; калгаснай сыстэмай за адзін 1929/30 год падрыхтавана праз розныя курсы 4,516 асоб і г. д.), . гэта работа яшчэ далёка не пакрывае неаб-

ходнай колькасьці спэцыялістых і мае шэраг буйных недахопаў; галоўныя з іх гэта:

а) Тэмпы падрыхтоўкі кадраў далёка адстаюць ад агульных тэмпаў сацыялістычнай перабудовы сельскай і лясной гаспадаркі.

б) Нізкая якасьць падрыхтоўкі кадраў праходзіла не здавальняюча і без патрэбнай арганічнае ўвязкі з запатрабаваньнямі сацыялістычнага будаўніцтва: адарванасьць тэорыі ад практыкі, адсутнасьці пэўнае ўдасканалае спэцыялізацыі, раўненьне на індывіўуальны і на агульны нізкі тэхнічны ўзровень разьвіцьця сельскай гаспадаркі і г. д.

в) Пралетарская праслойка ў с/г навучальных установах слабая, так у Б.С/Г.А. рабочых і дзяцей рабочых толькі 23%.

г) Праслойка сельгаслесрабочых і батрацтва ў навучальных установах зусім слабая, асабліва ў ВНУ, дзе да гэтага часу яны налічваюцца адзінкамі.

д) Сетка сельска-гаспадарчых навучальных устаноў да гэтага часу не прынята гаспадарчымі арганізацыямі, пытаньне-ж аб перадачы гаспадарчым арганізацыям прафшкол наогул да гэтага часу ня вырашана.

е) Вакол справы падрыхтоўкі пралетарскіх кадраў яшчэ да гэтага часу не згуртавана шырокая грамадзкая думка.

Усё гэта высоўвае перад саюзам СГЛР адказную задачу мабілізацыі вакол справы падрыхтоўкі кадраў шырскай грамадзкай думкі сельгаслесрабочых і батрацтва, прыданьне ей (падрыхтоўцы) баявога ўдарнага характару і яшчэ большага ўзмацненьня тэмпаў гэтай работы з рашучым зьнішчэньнем дапушчаных у справе падрыхтоўкі кадраў недахопаў і памылак.

Выходзячы з патрэб сельскай і лясной гаспадаркі да канца пяцігодкі, г. зн. пры ажыцьцяўленьні суцэльнай калектывізацыі БССР, пашырэньня плошчы саўгасаў да 600 тысяч га і рэарганізацыі лясной гаспадаркі (леспрамгасы),—Пленум БРК СГЛР канстатуе, што па плянавых меркаваньнях Дзяржпляну для БССР патрэбна падрыхтаваць наступную колькасьць спэцыялістых вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі:

а) Спэцыялістых з вышэйшай кваліфікацыяй для саўгаскай сыстэмы 839, калгаснай сыстэмы 5.422, для леспрамгасаў 981, а ўсяго 7.242 асобы.

б) Спэцыялістыя сярэдняй кваліфікацыі - для саўгасаў 808, калгасаў 11.989 і лясное гаспадаркі — 887, а ўсяго 13.684 асобы;

Колькасьць-жа маючыхся спэцыялістых ў сучасны момант пакрывае патрабаваньні пяцігодкі кадраў: па вышэйшай адукацыі на 9%, па сярэдняй на 9,5%.

Спэцыялістых ніжэйшай кваліфікацыі па ўсіх галінах сельскае і лясное гаспадаркі БССР па плянавых наметках НКЗему да канца пяцігодкі патрабуецца 194.518 асоб, з якіх па групе мэталістых (трактарыстаў, мэханікаў, матарыстаў) да 75 тысяч асоб, усяго такім чынам, да канца пяцігодкі патрэбна падрыхтаваць 215.426 спэцыялістых вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай кваліфікацыі для сельскае і лясное гаспадаркі БССР.

Пленум БРК СГЛР, фіксуючы гэтыя лічбы, ўсё-ж лічыць неабходным унясеньне ў іх шэрагу буйных удасканаленьняў і паправак, асабліва па групе ніжэйшай кваліфікацыі, адпаведна апошнім дырэктывам партыі і ўраду па выкананьню пяцігодкі з дасканалым улікам наяўнага складу спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі.

Існуючая сетка навучальных устаноў і колькасьць курсаў, якія мяркуецца адчыніць для падрыхоўкі спэцыялістых, змогуць здаволіць запатрабаваньні гаспадаркі на першую пяцігодку: па групе вышэйшай кваліфікацыі на 44% сярэдняй да 53% і ніжэйшай на 45%, у выніку чаго становішча з забясьпечаньнем кадрамі сельскай і лясной гаспадаркі застаецца ў вельмі напружаным становішчы ў працягу ўсей пяцігодкі.

Пленум БРК СГЛР, незгаджаючыся з мяркаваньнямі Дзяржпляну, рашуча ставіць пытаньне перад урадам БССР аб неабходнасьці каранога перагляду наметак Дзяржпляну аб падрыхтоўцы кадраў у бок іх значнага павялічэньня і давядзеньня да фактычных патрэб сельскай і лясной гаспадаркі як праз арганізацыю розных курсаў і павялічэньне прапушчальнай здольнасьці навучальных устаноў, гэтак і праз арганізацыю новых устаноў. Пленум БРК СГЛ

дзначаючы, што Дзяржплянам не запраэктавана адчыненьне новых навуальных установ (ВНУ, тэхнікумаў) у рацягу 1931-33 году; лічыць такую становку неправідловай, тармазячай уткае зьнішчэньне разрыву паміж кольэсьцю падрыхтаваных спэцыялістых і атрэбай у іх, і рашуча настойвае на ераглядзе гэтай установкі.

Аднэй з крыніц паслабленьня напужанасьці ў здавальненьні сельскае і ясной гаспадаркі кваліфікаванымі кадамі, павінна стаць масавая перападыхтоўка, перакваліфікацыя і дакваліфіацыя праз сыстэму каротка-тэрміновых урсаў і арганізацыю аднагадовых і вухгадовых практычных інстытутаў па рыкладу ўжо працуючых на вытвор асьці.

Пленум лічыць неабходным, каб бясьпечыць да канца пяцігодкі перадрыхтоўкі ўсей колькасьці ўжо прауючых спэцыялістых і практыкаў (выуску да 1927 году).

Сацыялістычная перабудова сельскае іспадаркі на ўзроўне навейшых дасягэньнеяў навукі і тэхнікі ва ўмовах шыроа разгорнутай клясавай барацьбы, шпарая калектывізацыя сельскай гаспадаркі, квідацыя кулацтва як клясы, на базе уцэльнай калектывізацыі, вялічэзнае збуйненьне саўгасаў з прыданьнем ім эўнай спэцыялізацыі, а таксама карааэ перабудова лясной гаспадаркі ў еспрамгасы —патрабуюць падрыхтоўкі рвага тыпу пралетарскіх спэцыялістых—актыўных арганізатараў сацыялічнага будаўніцтва з яскрава вызначаай вузкай спэцыяльнасьцю, арганічна вязанай у працэсе вучобы з сваей пэцыяльнасьцю.

Гэта з усей рашучасьцю высоўвае рабоце па падрыхтоўцы кадраў шэаг задач, для практычнага вырашэньі якіх пленум БРК СЛГР лічыць неабдным:

1. Каранным чынам перабудаваць аботу Беларускай Сельска-Гаспадарчай кадэміі шляхам выдзяленьня з яе састойных інстытутаў па розных спэыяльнасьцях, а менавіта:

а) Інстытут арганізацыі экономікі і янаваньня буйнай сацыялістычнай сельай гаспадаркі;

б) Інстытут мэханізацыі і індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі;

в) Зоотэхнічны Інстытут;

г) Мілірацыйны Інстытут;

д) Тарфяны Інстытут;

е) Лясны Інстытут.

Кожны з Інстытуту ў сваю чаргу павінен мець адзяленьні па асобных вузкіх спэцыяльнасьцях, патрэбна для гаспадркі.

2. Арганізаваць у працягу пяцігодкі 8 тэхніка-саўгасаў і 4 тэхнікума-леспрамгасаў з курсам сярэдняй спэцыяльнай адукацыі па вопыце арганізуемых заводаў-ВТУЗаў, заводаў-тэхнікумаў. Забясьпечыць адчыненьне ужо ў будучым годзе ня менш 2-х тэхніка саўгасаў і 1 тэхнікалеспрамгасу. Побач з гэтым дабівацца арганізацыі да канца пяцігодкі аднэй з саўгаса-ВНУ.

3. Пленум канстантуе, што сацыяльны спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі ў сучасны момант зьяўляецца зусім не здавальняючым—рабочых 6% батракоў 0,4%.

Аднэй з асноўных задач саюзу і навучальных установ ў справе падрыхтоўкі кадраў зьяўляецца правядзеньне чоткай клясавай лініі пры прыёме ў навучальныя ўстановы і забясьпячэньня выкананьня пастаноў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКПБ(б) аб прыёме ў сельска-гаспадарчыя навучальныя установы ня менш 70% рабочых, сельгаслесрабочых і батракоў.

Адзначаючы, што да гэтага часу сельгаслесрабочыя і батракі прымаліся ў навучальныя установы зусім незначнай ступені, напрыклад ў БСГА сельгаслесрабочыя складаюць 0,5%, батракі 1,5%, ў сельска-гаспадарчых тэхнікумах с/г рабочых 3,5%, батракі 5% па даным на 1/I 1930 г., ў вэтінстытуце с/г рабочых 1,5%, батракоў 1%, пленум лічыць абавязковай задачай саюзу максімальнае прасоўваньне сельгаслесрабочых і батрацтва ў навучальныя ўстановы і даручае прэзыдыуму дабіцца ўстанаўленьня для іх спэцыяльных курсаў пры прыёме, ня менш як 25% ў адносіне да агульнай колькасьці прымаемых

4. Улічваючы з аднаго боку надзвычай на вялікую цягу сельгаслесрабочых і батрацтва на вучобу і з другога, як правіла, вельмі нізкую агульна адукацыйную падрыхтоўку іх, што надзвычайна тар-

мазіць прасоўваньне ў ВНУ, тэхнікум, прафшколу і нават рабфак, пленум БРК СГЛР, канстантуючы значны пералом ў рабоце саюзу ў адносіне разгортваньня за сродкі саюзу сеткі падрыхтоўчых курсаў ў навучальныя установы (ў ВНУ рыхтуюцца 300 асоб. ў тэхнікумы 40 і раефак 285, а ўсяго 625 асоб), прапануе прэзыдыуму замацаваць дасягнуты посьпехі і удалейшым ісьці па шляху яшчэ большага разгортваньня сеткі для батракоў і сельгаслесрабочых.

Пленум лічыць неабходным, каб да канца пяцігодкі сіламі саюзу было падуыхтавана ў рабфак 2250 асоб, ў тэхнікум 1500, ў ВНУ 750 асоб, а ўсяго 4500 асоб.

5. Арганізаваць стала дзейнічаючыя гадавыя курсы па падрыхтоўці і перападрыхтоўцы кіраўнікоў саўгасаў з прапушчальнай здольнасьцю ня менш як 60 асоб у год.

6. Рашуча пашырыць сетку сельгасвучу і лесгасвучу з тым, каб да канца пяцігодкі забясьцечыць магчымасьць падрыхтоўкі гэтай сыстэмай усей броні падлеткаў.

7. Перадаць ў самым тэрміновым парадку навучальныя ўстановы гаспадарчым органам прыкладна наступным чынам:

а) *Наркамзему*—Інстытут арганізацыі экономікі і планаваньня буйнае сацыялістычнае сельскае гаспадаркі, інстытут мэханізацыі і індустрыялізацыі с/гаспадаркі, зоотэхнічны інстытут мэліарацыйны інстытут, ветэрынарны інсты тут,і Магілёўскі каморніцка-тапаграфічы тэхнкум, Магілёўскі агранамічны тэхнікум, Скрыгалоўскі культуртэхнікум і Горацкі тэхнікум па эксплетаацыі с/г мшын.

б) *ВСНГ*—Тарпяны інстытут, лясны інстытут, Полацкі лясны тэхнікум.

в) *Белсадагародсаюзу*--Марына—горскі садова-агародны тэхнікум, Чырвонаберажскі бульба-апрацовачны тэхнікум.

г) *Сыстэме* „сьвінавод"—Стара-Барысаўскі жывёлагадоўчы тэхнікум.

д) *Белмолжывсаюзу*--Курасоўшчынскі жывёлагадоўчы тэхнікум. Беліцкі малочны тэхнікум і Аршанскі мясапрацовачны тэхнікум.

е) *Ільноаб'яднаньню* — Лужаснянскі Ільнаводны Тэхнікум.

ж) *Белрыбе*—Жыткавіцкі рыбаводны тэхнікум.

Адначасова лічыць неабходным перадаць гаспадарчым установам усе сельска-гаспадарчыя прафшколы.

8. Адзначаючы, што Наркомасьветы пры разгортваньні сеткі пачатковых школ і семігодак, зусім ў недастатковай ступені адчыняе школы ў саўгасах, у выніку чаго да гэтага часу ў саўгасах маецца толькі да 40 чатырохгодак і да 5 сямігодак, пленум даручае прэзыдыуму рашуча дабівацца шпаркага разгортваньня сеткі навучальных установ ў саўгасах з тым, каб да канца пяцігодкі колькасьць чатырохгодак ў саўгасах было павялічана ня менш, як да 200 і сямігодак да 25.

9. Правесьці тэрміновы перагляд вучэбных праграм і планаў адпаведна запатрабаваньню сацыялістычнай перабудовы сельскай і лясной гаспадаркі, забясьпечыць навучальныя ўстановы адпаведным выкладчыцкім пэрсаналам і неабходным абсталяваньнем і падручнікамі. Пленум БРК СГЛР лічыць неабходным забясьпечыць абавязковы удзел саюзу ў рабоце па перагляду ў складаньні вучэбных планаў і праграм, а таксама чоткае правядзеньне непарыўнае вытворчай практыкі студэнства на прадпрыемствах сельскае і лясное гаспадаркі.

10. Пленум БРК СГЛР лічыць неабходным, каб вылучэньне на вучобу была пастаўлена пад шырокі грамадзкі кантроль саюзнае масы і абавязкова праходзіла праз абгаварэньне кандыдатур на агульных сходах, вытворчых нарадах, насьценым друку і г. д.

Камплектаваньне навучальных установ і курсаў, як правіла павінна праходзіць пры непасрэдным удзеле саюзных арганізацый пры ўстанаўленьні пэрсанальнай адказнасьці прадстаўнікоў саюзу ў прымова-адборачный камісіі за працу па камплектаваньню.

11. Адзначаючы, што яшчэ да гэтаго часу батрацтву і сельгасрабочым ня створаны неабходныя ўмовы для вучобы ў нармальнай агульна-адукацыйнай школе 7-мігодках і 4-хгодках і што далёка яшчэ ня выкананы дырэктывы ўраду по гэтаму пытаньню, пленум даручае прэзыдыуму дасканала праверыць гэту работу і рашуча дабівацца паляпшаньня умоў

сельгаслесрабочым і батракам і іх дзецям для вучобы у школах сацвыху, як-та: забясьпечаньне стыпэндзіямі, інтэрнатамі г. д.

12. Улічваючы усё яшчэ слабую пастаноўку работы па лікбезу, у выніку чаго за 1929/30 год ліквідавана няпісьменнасьць толькі сярод 18.975 сельгаслесрабочых і батракоў, што надзвычайна тармазіць прасоўваньне іх на вучобу,—пленум БРК СГЛР з усей рашучасьцю ставіць пытаньне перад прэзыдыумам і перад усей саюзнай масай аб неабходнасьці поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых ў 1930/31 годзе.

13. Дапамога ў рабоце саюзу СГЛР з боку іншых саюзаў павінна знайсьці свой адбітак ў адказнейшай задачы саюзу—пападрыхтоўцы кадраў. Лічучы першыя крокі у гэтым напрамку (з боку саюзу Працасьветы, Савгандальслужачых і г. д.) зусім недастатковымі,-пленум абавязвае прэзыдыум дабіцца у гэтай рабоце рашучага пералому, як у адносіне дапамогі іншых саюзаў ў практычнай падрыхтоўцы кадраў і прасоўваньня сельгаслесрабочых і батракоў у навучальныя ўстановы па усіх спэцыяльнасьцях, гэтак і ў асаблівасьці у рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці.

14. Адзначаючы, што з боку саюзу дагэтага часу удзялялася зусім недастатковая увага да работы навучальных устаноў і масавай работы сярод студэнцтва, пленум БРК СГЛР ставіць абавязковай задачай прэзыдыуму БРК і усяго саюзу непасрэдны ўдзел і сыстэматычную дапамогу саюзу ў рабоце навучальных устаноў, шляхам узмацненьня кіраўніцтва работай прафкомаў, шырокага разгортваньня масавай палітыка - выхаваўчай работы сярод студэнцтва і дапамогі адміністрацыі школы ва ўсей вытворча-акадэмічнай працы і жыцьці ВНУ, рабфаку, тэхнікумаў і курсаў.

Побач з гэтым саюзныя арганізацыі павінны прымаць непасрэдны удзел і дапамагаць ў рабоце па разьмеркаваньні скончыўшых на вытворчасьць, сочачы за сваячасовым забясьпячэньнем спэцыялістымі вударных вучасткаў сельскай і лясной гаспадаркі, напрыклад ў сучасны момант саўгсаў сыстэмы „сьвінавод“.

15. Пленум канстантуе, што побач з цэлым шэрагам недахопаў забясьпечаньнем кадрамі сельскай і лясной гаспадаркі, адначасова маецца такое-ж становішча і з кадрамі профпрацаўнікоў. Сетка прафарганізацыі нашага саюзу ў сучасны момант далёка не забясьпечана ні колькасна, ні асабліва якасна неабходнымі работнікамі.

Надзвычайна адказнейшая задача, пастаўленая перад прафсаюзамі XIII-ым зьездам КП(б)Б, 3-м пленумам УсеЦСПС рубам ставяць пытаньне аб неабходнасьці забясьпячэньня праворганаў працаўнікамі, здольнымі перабудаваць прафработу тварам да вытворчасьці, адпаведна задачам вялічэзнага размаху сацыялістычнага будаўніцтва, калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі.

Пленум даручае прэзыдыуму распрацаваць шэраг практычных мерапрыемстваў па ударнай падрыхтоўцы кадраў для профорганаў з ліку лепшых апраўдаўшых сабе на вытворчасьці-ударнікаў сельгаслесрабочых і батракоў.

Асноўнымі з мерапрыемстваў у гэтай галіне пленум БРК СЛГР лічыць:

а) Каранную перабудову работы школы прафруху пры БРК СГЛР, пры павялічэньні яе прапушчальнай здольнасьці да 260 асоб у год і забясьпячэньні падрыхтоўкі праз яе інструктарскага складу.

б) Праз школу прафруху ЦСПСБ прапусьціць да канца пяцігодкі ня менш 50 асоб і праз вышэйшую школу прафруху-10 асоб.

в) Арганізацыю шэрагу картка-тэрміновых курсаў, нарад для практычнай прапрацоўцы задач прафсаюзнае працы на бліжэйшы адрэзак часу-райнарады і кустнарады прафактыву СГЛР.

г) Значнае палепшаньне жывога кіраўніцтва работай нізавых ячэек і сыстыматычная практычная дапамога з боку кіруючых працаўн коў саюзу ў іх рабоце.

д) Максімальнае паслабленьне цякучасьці, якая наглядаецца ў надзвычайна вялікай ступені асабліва у нізавых зьвеньнях праворганаў.

Пленум, адзначаючы што БРК саюзу СГЛР затрачвае на падрыхтоўку кадраў значныя сродкі (з датацыяй ад ЦК СГЛР, да 40 % ў адносіне да гадавога бюджэту БРК), усё-ж канстантуе, што гэтых срод-

каў далёка ня будзе хапаць для падрыхтокі намечанай колькасьці кадраў. Пленум прапануе акрамя далейшага узмацненьня удзельнай вагі, сродкаў укаштарысах БРК на падрыхтоўку кадраў, адначасова шырока прыцягнуць да гэтай справы сродкі гаспадарчых арганізацый і паставіць пытаньне перад ЦК СГЛР аб павялічэньні датацыі на падрыхтоўку кадраў.

Пленум даручае прэзыдыуму БРК СГЛР у працэсе сваей практычнай далейшай работы значна узмацніць увагу да пытаньняў плянаваньня і падрыхтоўкі кадраў і забясьпечыць поўнае выкананьне прынятых пастаноў па падрыхтоўцы кадраў з прыцягненьнем да гэтай справы самых шырокіх мас рабочых сельскай і лясной гаспадаркі і згуртаваньні вакол сравы падрыхтоўкі пралетарскіх кадраў для сельскай і лясной гаспадаркі і прафкаў шырокай грамадзкай думкі.

## ПАСТАНОВА

### 5-га пленуму БРК саюзу СГЛР па дакладу аб папярэдніх выніках падрыхтоўкі і хода работы перавыбараў нізавых праф. ячэяк рабачкомаў саўгасаў саюза СГЛР.

1. Заслухаўшы даклад т. Жывіцкага аб папярэдніх выніках перавыбараў рабачкомаў с/г 5-ты пленум БРК саюзу СГЛР адзначае.

а) Што перабудова праф. работы па рабачкомам на новыя формы і мэтады паваротам тварам да вытворчасьці да перавыбарчай кампаніі праходзіла вельмі марудна, у час-жа перавыбарчай кампаніі знайшла значны пералом у практычным ажыцьцяўленьні гэтай задачы.

б) Уцягнута дабраахвотнікаў з лепшых ударнікаў і актыўных рабочых у самаправерачныя брыгады па праверцы работы рабачкомаўў сярэднім 28% да агульнай колькасьці рабочых.

Па цэламу шэрагу с/г перавыбары рабачкомаў праводзіліся па ударнаму праз сац. спаборніцтва на лепшае правядзеньне перавыбараў (Бабр. акр. с/г „Рачкавічы“. „Бялевічы“ Віцебскае акр. „Загараны“ „Доўжа“, „Пачаевічы“, „Бачэйкавічы“, Гом. акр.-„Стрэлічаў“, „Рудаково“ Уваровічы“, „Астрагляды“ і інш. па акругам), што дала высокі процэнт наведаваньня справаздачна-выбарчых сходаў рабочымі ў сярэднім 95% па гэтым саўгасам прысярэднім наогул 80%.

г) Новы мэтад абгаварэньня дзейнасьці работы рабачкомаў, даў магчымасьць значна шырэй разгарнуць сапраўдна пралетарскую крытыку і самакрытыку сярод рабочых мас навакол работы рабачкому па галоўным гаспадарча-палітычным пытаньням: прам. фінплян, сац. спаборніцтва, ударніцтва, калектывізацыя, вясеньні сеў, падрыхтоўка да ўборачнай кампаніі і г. д. Сярэдні процант выступаючых у спрэчках з агульнай колькасьці рабочых складае 32%.

д) Шырока разгорнутая праф. дэмакратыя, правядзеньня сьмелага вылучэньня на кіруючую работу ў праф. органы новых кадраў, перадавых сельскагаспадарчых рабочых ў першую чаргу ударнікаў, дала магчымасьць аднавіць склад рабочых камітэтаў с/г на 66% у сярэднім і старшыні рабачкомаў на 45%

е) У час правядзеньня перавыбарчай кампаніі, рабачкомаў рабочыя правялі шырокую актыўнасьць У спрэчках выказываліся ў сярэднім 32% к агульнай колькасьці рабочых. Спрэчкі былі накірованы на неабходнасьць яшчэ большай й мабілізацыі сельгаслесрабчых мас вакол задач пастаўленых партыяй у справе саўгаскага будаўніцтва і сацыялістычнае рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

ж) Сац. спаборніцтва і ўдарніцтва ў час перавыбарчай кампаніі знайшло значны пералом у бок сапраўднага правядзеньня яго на справе. Арганізованы: новыя ударныя брыгады па саўгасам „Цэраспальле“, „Мазалава“, „Пачаевічы“, „Заолеша“, Гаршчэўшчына“, „Бабінічы“, „Рудакова“, „Стрэлічава“ і па цэламу шэрагу іншых саўгасаў па акругам. Колькасьць ударнікаў за час перавыбарчай кампаніі ўзрасла з 2157 на 2601 чал.

з) Наказы новаму складу рабачкомаў у пераважнай большасьці значна палепшаны, імі ахапляюцца канкрэтныя галоўныя палітычна-гаспадарчыя і праф. пытаньні ў практычнай рабоце рабачкомаў.

і) Пасылка брыгадзіраў, вызнача-

ных ЦСПСБ 41 чал. ў дапамогу па перавыбарам рабочых камітэтаў, мабілізацыя 55 чал Акр. і райінструктароў, вызначэньне рабочых брыгад па лініі АПБ другімі саюзамі-40 чал. пасылка 8 чал. членаў прэзыдыуму БРК па акругам, правядзеньне акр. і раённых інструкцыйных нарад з брыгадзірамі і шырокае азнаямленьне рабочых мас саўгасаў з асноўнымі задачамі перавыбарчай кампаніі забясьпечыла дапамогу раб.чкомам у разгортваньні перавыбараў рабачкомаў, як баявой палітычнай кампані.

2. Адначасов з дасягненьмямі у справе правядзеньня перавыбарчай кампаніі рабачкомаў, пленум БРК СГЛР адзначае і цэлы шэраг недахопаў, выяўленых у час перавыбарчай кампаніі, як у праф. рабоце, так і ў вытворчай дзейнасьці саўгасаў:

а) Прам. фінплян як правіла у большасьці саўгасаў не даведзены да кожнага рабочага, адзіначаліе па усім саўгасам не ўсвоена і не праводзіцца, па саўгасам („Зарэчча", „Леніна", „Анатопль" „Доўжа", „Загараны", „Адаменка" і інш.) быў дапушчан пераход ад беспэрапынкі на семідзённы тыдзень. Зьдельшчына яшчэ не знайшла доўжнага пералому у практычнай рабоце па ўсім саўгасам. Харчаваньне рабочых па с/г пастаўлена вельмі дрэнна: сталоўкі не прыстасаваны, перабойнасьць з прадуктамі і шэраг інш. неувязак (Гом.-саўгасы „Астрагляды, Стрэльшчава, Рудакова, Аршаншчына „Забалоцьее", „Вусьця", Меншчына саўгас „Тарасава" і інш. па акругах).

б) Пытаньнем падняцьця вытворчасьці працы і узмацненьня прац. дысыпліны рабачкомы зусім мала займаліся. Культ. масавая, палітыка-выхаваўчая праца вялася слаба.

в) Падрыхтоўка да уборачнай кампаніі у большасці саўгасаў была не распачата (Арш. саўгас „Пашкава-Дзедзілава", „Межава" „Высокае"; Віцебшчына „Загараны", „Падбярэзьзя"; Магілёўшчына „Буйнічы", „Вейна"; Гомельшчына „Харпуць", „Рудакова". „Стрэлічава" і па інш. саўгасам па акругам).

г) Сац. спаборніцтвам і ударніцтвам, рабочыя камітэты саўгасаў слаба кіравалі. Самаправерка яго праводзілася саматекам. Рабочыя камітэты замест таго каб кіраваць гэтай справай у большай часьці цягнулісь у хвасьце (Гом.-саўгас „Астрагляды", „Харапуць", „Дземянкі" Аршаншчына саўг. „Бабінічы", „Забалоцьь". „Вусьце"; Бабр.-саўг. „Рудабелка" „Бацэвічы", Меншчына саўг. „Вішнеўка", „Лекерта" і інш. па акр.)

д) Будаўніцтва па ўсім саўгасам разгортваецца вельмі слаба, знаходзіцца пад пагрозай зрыву, распачата са значным спазьненьнем (Арш. саўг. „Межава", „Райцы"; Гом. саўг. „Рудакова" „Харапуць", „Закружка"; Меншчына саўг. „Вішнеўка", „Саламарэчча", Бабр.-саўг. „Завалочнае", „Халопенічы" і інш. па акругам) Белсельбуд слаба кіруе будаўніцтвам, трэсты не рэагуюць на слабае будаўніцтва, адсутнасьць матар'ялаў і рабочай сілы. в боку кіраўнікоў і рабачкомаў саўгасаў не дастаткова рашуча ставілася пытаньне аб больш хуткім разгортваньні будаўніцтва і не сігналізавалася аб сустрэкаючыхся цяжкасьцях.

е) Па шэрагу саўгасаў (Меншчына саўг. „Зарэчча", „Леніна", „Анатопль", Арш. саўг. „Межава", „Вусьце", „Бабінічы" і па іншым саўгасам другіх акург), крытыка і самакрытыка ня мае свайго практычнага праламленьня у штодзённай практычнай рабоце сярод рабочых мас. Былі выпадкі зажыма крытыкі-саўгас „Ліпава", „Наднеман", што гаворыць за слабае кіраўніцтва работай паасобных рабочых камітэтаў па унядрэньню у рабочыя масы асноўнага лёзангу разгортваньня шырокай крытыкі і самакрытыкі вакол галоўных гаспадарча-палітыч. пытаньняў.

ж) Клюбы, Чыр. куткі прыймалі слабы удзел у перавыбарчай кампаніі р/к, у большай часьці абмяжоўваліся вывешваньнем лёзунгаў і толькі Ніякай другой практычнай работы не вялі.

з) Гаспадарнікі прыймалі вельмі слабы удзел ў правадзімай перавыбарчай кампаніі р/к.

і) Меліся выпадкі выступленьня паасобных старшынь рабачкомаў супроць новых форм і мэтадаў проф работы (с/г Закружжа, Межава)

к) Слаба асьвятляўся ход перавыбарчай кампаніі р/к у мясцовым і цэнтральным друку. Мала адбівалася ў друку работа самаправерачных добраахвотных брыгад па праверцы работы рабачкомаў.

л) Збоку прэзыдыуму БРК з некаторым спазьненьнем накіравана у нізы дырэктыва і інструкцыя аб перавыбарах р/к—25/V-г/г. Акр. Інстр. і Райінструктары, атрымаўшы дырэктыву на мясцох, нічога не зрабілі па падрыхтоўчай рабоце да 3/VI-г/г. (Гом. Баб., акругі).

м) Пленум адзначае неправідловае правядзеньне работы па перавыбарам р/к, парушэньне інструкцыі і праф. дэмакратыі аб перавыбарах па наступным р/к: Гом. Пралетары, Бабр.-Халопенічы, Менск--Зарэчча, Мазыр -Канстанцінава, Ворша-Дзедзелава-Пашкова, Межава, Забалоцьце, Крывое, Арловічы, Лемніца, Смальяны, Скрыншчына.

н) Адным з больш слабых вучасткаў па перавыбарам р/к зьяўляецца Аршанская акр., дзе перавыбарчая кампанія сарвана.

о) Выходзячы з пералічанага шэрагу недахопаў, выяўленых у ходзе работы перавыбарчай кампаніі, пленум БРК Саюзу СГЛР прапануе правесьці наступныя мерапрыемствы,

1) Прапанаваць прэзыдыуму БРК, інструктарскаму складу і усім рабачкомам шырока разгарнуць работу па мабілізацыі мас сельгаслесрабочых вакол задач, пастаўленых 5-ці гадовым плянам разьвіцьця сац. сэктару с/г і усяе народнае гаспадаркі, мабілізуючы масы сельгаслесрабочых на пасьпяховае выкананьне лёзунга пяцігодка у чатыры гады, выкананьне і прэвыкананьне прам. фінпляну і ліквідацыя прарываў на гэтым фронце праз яшчэ большае разгортваньне соц. спаборніцтва і ударн. замацаваньня дасягненьняў, маючыхся на гэтым фронце ставячы мэтай к канцу 1930 г. як мага больш ахапіць сац. спаборн. і ударніцтвам сельгаслесрабочых саўгасаў. Прэзыдыуму БРК распрацаваць канкрэтныя паказчыкі аб парадку вучоту эканамічнага эфэкту ад правадзімага соц. спаборніцтва і ударніцтва.

2) Пленум БРК са усей рашучасьцю прапануе усім праф. саюзным арганізац. забясьпечыць давядзеньне прам. фінпляну да асобных брыгад, груп рабочых і да кожнага рабочага.

3) Абавязаць усе гаспадарчыя і праф. арг. узмацніць работу падрыхтоўкі к уборачнай кампаніі на грунце даных дырактыў прэзыдыумам БРК саюзу ад 11/VI г/г. апублікаваных спэцыяльнай брашурай і разасланай усім рабачкомам саўгасаў, зьвярнуўшы асаблівую увагу на мабілізацыю усіх сельгаслесрабочых на вокал галоўнейшага палітычна-гаспадарчага пытаньня правядзеньня па ударнаму уборкі і рэалізацыі ураджая, хлебанарыхтоўкі і правядзеньня асеньняга севу ў тэрмін вызначаемы плянам. Работу пабудаваць так, каб як найбольш было уцягнута рабочых саўгасаў ў ударніцтва і сац. спаборніцтва на лепшае правядзеньне уборкі ураджая і правядзеньне вэсеньняга севу, шырока разгарнуўшы работу па дапамозе у час уборачнай кампаніі калгасам і індывідуальна беднядцка-серадняцкім гаспадаркам, аказваючы дапамогу машынамі, рамонт інвэнтара і іншымі відамі работы.

4) Прапанаваць усім нізавым праф. ячэйкам прыступіць к неадкладнай перабудове работы вытворчых нарад, згодна паказаньняў УсеЦСПС і ЦСПСБ. Работу вытворчых нарад перабудаваць так, каб яна стала кіраўніком штабам сац. спаборніцтва і ударніцтва ізнаходзіла поўнаа адбіваньне у пытаньнях прац. дысцыпліны, росту вытворчасьці працы і якасьці прадукцыі. Прэзыдыуму БРК даць паказаньні ўсім рабачкомам аб мэтадах практычнага правядзеньня перабудовы работы вытворчых нарад.

5) Пленум БРК прапануе усім праф. арг. яшчэ раз шырока прапрацаваць на актыве, вытворчых нарадах і агульных сходах рабочых рашэньне Верасьнеўскага Пленуму ЦК КПБ і ЦК Усе КП(б) аб адзінаначаліі, забясьпечыць у штодзёнай раб це поўнае правядзеньне гэтых дырактыў.

6) Пленум прапануе ўсяму Акр. і Райінструктарскаму складу і усім рабачкомам яшчэ раз шырока папулярызаваць рабочыя масы аб значэньні і мэтах непрарыўкі шляхам пастаноўкі гэтага пытаньня на абгаварэньне праф. актыву, вытворчых нарад, агульных сходаў рабочых, а таксама не аслабляць правядзеньне гэтай работы штодзённа праз насьценгазэты, клюбы, Ч. куткі, біблiатэкі, вячары пытаньняў-адказаў і шляхам іншых мерапрыемстваў. Рабачкомам ні ў якім разе не дапускаць перахода ад 5-ці днёўкі-бэспэрапынкі на семідзённы тыдзень.

7) Пытаньню шырокага прымяненьня зьдзельшчыны ў саўгасах пленум БРК прыдае надзвычайна вялікае значэньне, што стварыць найлепшыя формы работы па падняцьцю вытворчасьці працы і паляпшэньня якаснага паказчыка вытвараемых работ па саўгасам, дасьць большую зацікаўленасьць рабочага работай і адначасова з ростам вытворчасьці працы і падняцьця прац. дысцыпліны падніміцца узровень зарплаты рабочага.

Пленум даручае прэзыдыуму БРК дабіцца у найкарацейшы тэрмін ад гасп. органаў абавязковага прымяненьня зьдзельшчыны ў саўгасах.

8) Пленум заклікае усіх спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі і інжынэрна-тэхнічных работнікаў праявіць яшчэ больш актыўны удзел ва усей вытворчай рабоце па сац. спаборніцтву, ударніцтву, вынаходзтву, практычная дапамога вытворчым нарадам, рабочым вынаходцам, перадача тэхнічных ведаў месцам, хуткае правядзеньне ў жыцьце прапаноў рабочых, паляпшаючых вытворчасьць, павінна стаць асноўнай задачай для сэкцыі спэцыялістых.

9) Прапанаваць усім прафсаюзным арг. зараз-жа прыступіць к правядзеньню куставых, раённых канфэрэнцый скліканьня ударнікаў па пытаньню аб лепшай падрыхтоўцы правядзеньня уборкі ураджаю і падрыхтоўкі к асеньняму севу.

10) Даручыць прэзыдыуму БРК на бліжайшым пасяджэньні прэзыдыуму паставіць даклад Белсельбуду аб ходзе будаўніцтва па саўгасам, дзеля высьвятленьня становішча з будаўніцтвам і прыняцьця належных крокаў для своечасовага выкананьня будаўніцтва к намечанаму тэрміну.

11) Пленум даручае прэз. БРК дабіцца праз адпаведныя органы паляпшэньня грамадзкага харчаваньня рабочых саўгасаў і наогул забясьпячэньня рабочых саўгасаў прам. таварамі.

12) Пленум даручае прэзыдыуму БРК у бліжайшы тэрмін прапрацаваць пытаньне і намеціць канкрэтныя мерапрыемства аб правядзеньні злётаў ударнікаў у раёнах, акругах і Усебеларускім маштабе.

13) Рабочае вынаходства ў справе разьвіцьця сац. сэктару с/г займае адно з найбольш важных мейсц. Пленум даручае Прэз. БРК і ўсім нізавым праф. арг. разгарнуць ва ўсю шыр работу вакол мабілізацыі увагі рабочых мас на яшчэ большае разгортваньне ініцыятывы і творчасьці сельгаслесрабочых у справе рабочага вынаходства, рацыяналізатарскіх мерапрыемств, мерапрыемстваў па ўтачненьню спрашчэньняў і ўпарадачэньню асобых відаў работы і г. д., дзеля чаго неабходна на мясцох шырока разгарнуць арг. работу, шырока папулярызаваць рабочыя масы адзначэньня рабочага вынаходцтва, праз Клюбы, Чырвон. куткі, насьценгазэты абгаварэньне гэтых пытаньняў на вытворчых нарадах і агульных сходах рабочых. Зьвярнуўшы асаблівую ўвагу гаспадарнікаў і праф. арг. на прыняцьці адпаведных крокаў к рэгулярнаму выкананьню ўнасімых рабочымі прапаноў, якія даюць эканамічны эфект дзеля сац. вытворчасьці. Ўзяць за правілы абавязковае правядзеньне прэміраваньня рабочых за ўнесёныя імі каштоўныя прапановы, якія даюць для гаспадаркі якасны паказчык утаненьне вытвараемых работ.

Прэміраваньне правадзіць праз агульныя сходы рабочых, папярэдні падрыхтоўваючы гэтае пытаньне на пасяджэньні рабачкому, вытворчай нарады шырока асьвятляючы ў Цэнтральным і мясцовым друку, насьценгазеце аб высунутых рабочымі мерапрыемствах ў рабочым вынаходстве, каб гэты мэтад работы перадаваўся і ў другія рабочыя калектывы саўгасаў.

14) Адзначаючы слабы тэмп разгортваньня культ. масавай палітыка-выхаваўчай працы сярод сельгалесрабочых, Пленум БРК са ўсёй рашучасьцю прапануе ўсім праф. ячэйкам неадкладна прыступіць да правядзеньня і ажыцяўленьня рашэньняў Прэз. БРК па гэтаму пытаньню ад 11/VI 30 г., зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на замацаваньне перабудованай усяе праф. работы на новыя формы і мэтады паваротам тварам да вытворчасьці, перабудовы і прыстасаваньня работы клюбаў і ч. куткоў у інтарэсах сац. вытворч. паставіў работу клюба і ч. кутка так, каб яны зьяўляліся цэнтрам і праваднікамі сярод

шырокіх мас сельгаслесрабочых галоўных гаспадарча-палітычных і праф. пытаньняў. Уся культ. масавая палітыка-выхаваўчая праца павінна праводзіцца пад кутком погляду мабілізацыі мас сельгаслесрабочых і батрацтва на выкананьне пытаньняў прам. фінплян, разгортвая сац. спаборніцтва і ўдарніцтва, калектывізацыя, крытыка і самакрытыка, адзінаначаліе, беспэрапынны тыдзень і г. д

15) Пытаньне палітыка-выхаваўчай працы сярод сэзоннай рабочай сілы і новымі слаямі рабочых, уліваючыхся ў савецкія гаспадаркі з вёскі, Пленум БРК прыдае надзвычайна вялікае значэньне і прапануе ўсім праф. арг. шырэй разгарнуць палітыка-выхаваўчую работу сярод новых колаў пралетарыяту, прышэдшага на працу ў савецкую гаспадарку, праводзячы рашучую барацьбу з усялякімі адсталымі настроямі, маючыміся сярод паасобных рабочых, рвацкімі настроямі, лодырніцтвам, разгільдзяйствам і пьянствам на вытворчасьці, дзеля чаго ўсім рабачкомам неабходна арганізаваць наступныя гурткі; пры ч. кутках і клюбах: Паліт. гурток, праф. гурток, гурток па лікбезу, вытворча-тэхнічны і інш., забясьпечыў адпаведнымі працаздольнымі кіраўнікамі, дагаварваючыся аб кіраўніках гурткоў на мясцох з партыйнымі арганізацыямі, ставячы сваей мэтай ахапіць вучобай як найбольш працуючых сэзонных і сталых рабочых ў саўгасах.

16) Пленум лічыць неабходным арганізаваць у газеце „Сельска-гаспадарчы рабочы Бел адзел" абмен вопытам у праф. працы. Акр. інструкт. у бліжайшы час неабходна вызначыць па 3 рабачкомы ў акрузе, ўтварыў іх у ва ўзорныя, таксама лічыць наабходным па ўсім акругам вызначыць па аднаму клюбу зрабіў іх паказальнымі ў рабоце. Вопыт работы гэтых рабачкомаў і клюбаў перадаваць праз друк у другія рабачкомы і клюбы.

17) Дзеля лепшай дапамогі кіраўніцтва работай нізавых праф. ячэяк Пленум лічыць неабходным увясьці як мэтад у рабоце, правядзеньне самаправеркі работы р/к адзін раз у квартал, шляхам вылучэньня рабочых брыгад з добраахвотнікаў-ударнікаў, пры абавязковым удзеле ў гэтай камісіі сябраў Прэз. Пленуму БРК альбо Акр. і Рай-інструктара, пасьля чаго ставіць справаздачу р/к і садаклад камісіі на абгаварэньне агульнага сходу рабочых, што дасьць болшую магчымасьць уцягнуць у практычную работу рабочых саўгасаў і азнаёміць іх з дзейнасьцю і ходам работы рабачкому.

18) Адзначаючы праяўленьне праваапуртуністычных настрояў з боку паасобных Старшынь рабачкомаў, выяўленных у час перавыбарчай кампаніі, Пленум БРК са ўсей рашучасьцю асуджае гэтыя вылазкі як палітычна шкодныя ў праф. працы і прапануе Прэзыдыуму БРК вясьці самую рашучую і бязьлітасную барацьбу з праяўленьнем апартунізму ў праф. працы з боку паасобных праф. работнікаў, рэзка ставячы пытаньне, зараз жа зьнімая гэтых работнікаў з праф. працы, заменяя іх лепшымі ўдарнікамі з добраахвотнікаў, шырока завастрая і асуджая такія выпадкі на шырокіх агульных сходах рабочых, шырока растлумачвая рабочым аб шкоднасьці праяўленьня апартунізму ў праф. працы.

19) Пленум прапануе правесьці шырокія інструкцыйныя нарады ўноў абраных Старшынь рабачкомаў па раёнах і абавязковага правядзеньня інструкц. нарад па рабачкому членаў уноў абранага складу р/к саўмесна з дабраахвотнікамі рабочымі па праф. рабоце, па пытаньням аб чарговых задачах працы.

20) Дзеля замацаваньня дасягнутых пасьпехаў у рабоце нізавых праф. ячэяк у час перавыбарчай кампаніі, Пленум даручае Прэзыдыуму БРК ўзмацніць практычную дапамогу р/к шляхам скарыстаньня на рабоце непасрэдна нізавой праф. ячэйцы ня менш 10 дзён у м-ц кожнага члена Прэзыдыуму.

21) Прапанаваць усім праф. ячэйкам разгарнуць шырэй сапраўдную пралетарскую крытыку і самакрытыку навокал гаспадарчых і палітычных пытаньняў, шляхам уцягненьня ўсей масы СГЛР практычна ў гэту працу, дзеля чаго неабходна ў бліжэйшы тэрмін яшчэ раз абгаварыць пытаньне аб значэньні крытыкі і самакрытыкі на праф. актыве і агульных сходах рабочых, прымаючы самыя рашучыя меры супроць тых ра-

ботнікаў, якія будуць перашкаджаць правядзеньню крытыкі і самакрытыкі ўплоць да зьняцьця з работы.

22) Давесьці да ведама ЦСПСБ, што АПБ Гомельшчыны і Мазыршчыны не вылучылі рабочых брыгад у дапамогу па перавыбарам р/к с/г і недастаткова аказана дапамога АПБ Аршанскай акругі.

23) Пленум адабрае праведзенае касіраваніе перавыбараў р/к па Аршанскай акр. па саўгасам „Межава", „Дзедзелава—Пашкова", „Забалоцьце" „Крывое", „Арловічы" „Лемніца", „Смальяны", „Скрыншчына" і адначасова дадаткова касіруя выбары па наступным рабачкомам саўгасаў: Пралетары; Канстанцінава, Халопенічы, Зарэчча, Наднеман, дзе ў перавыбарчай кампаніі допушчана парушэньне інструкцый аб перавыбарах і парушэньне праф. дэмакратыі. У памяненных р/к правесьці паўторныя перавыбары.

24) У сувязі з прадстаячай ліквідацыяй акруг, Пленум БРК выказваецца за арганізацыю Райкомаў па Саюзу СГЛР і даручае Прэзыдыуму БРК дабівацца перад адпаведнымі ворганамі ажыцяўленьня гэтага мерапрыемства.

25) Пленум даручае Прэз. БРК ў найкарацейшы тэрмін распрацаваць інструкцыю для работы вучастковага Камітэту ў саўгасах, аб'яднаемых агульным саўгаскім рабачкомам.

26) Даручыць уноў-выбраным рабачкомам саўгасаў ня меньш 1-го раза ў 2 м-цы адчытывацца аб сваёй рабоце на шыьокіх сходах рабочых саўгасах і забясьпечыць поўнае і своечасовае выкананьне наказаў, прынятых па перавыбарах рабачкомаў..

## Усім акр. і райінструктарам, прафкомам і сельрабачкомам саюзу сельгаслесрабочых.

### Паважаныя таварышы!

Савецкая Ўлада для забясьпечаньня выкананьня пяцігадовага пляну разьвіцьця прамысловасьці ў чатыры гады, і дзеля пасьпяховага правядзеньня сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі выпускае пазыку „Пяцігодка ў 4 гады".

Пазыка выпушчаецца на тых-жа ўмовах, што і 3-ця пазыка індустрыялізацыі. Асноўны лёзунг пазыкі—Двухтыднёвы заработак працуючых у пазыку дзяржаве (падрабязнасьці парадку выпуска пазыкі глядзі пастанову НКФ СССР, ра засланае Вам).

Саюз Сельгаслесрабочых па Беларусі аб'яднае ў сваіх шэрагох больш 70.000 членаў, якія знаходзяцца непасрэдна на вёсцы,—могуць і павінны адыграць главенствуючую ролю ў распаўсюджываньні пазыкі індустрыялізацыі сярод бедняцка-серадняцкай часткі насельніцтва вёскі. Задачай саюзных арганізацый у правядзеньні гэтай галоўнай палітычнай кампаніі зьяўляецца: мабілізацыя ўсіх сіл сельгаслесрабочых і батракоў па правядзеньні ў ударным парадку рэалізацыі пазыкі індустрыялізацыі, пяці годка ў чатыры гады, як сярод сельгаслесрабочых, батракоў, так і сярод калгасьнікаў і індывідуальнага бядняцка-серадняцкага насельніцтва вёскі.

Дзеля чаго шырока разгарнуць масава-растлумачальную работу сярод усіх рабочых, батракоў і сялян, скарыстоўвая для гэтага агульныя сходы рабочых, батракоў і сялян, насьценныя газэты, клюбы, чырвоныя куткі, хатычытальні і інш. мерапрыемствы.

Работу патрэбна ў гэтым напрамку разгарнуць шляхам растлумачыцельнага парадку, каб кожны рабочы, служачы, спэцыяліст саўгасу, лясьніцтва і батрак уцямілі значэньне выпушчаемай пазыкі і падпісаліся ня толькі на 2-х тыднёвы заработак, але і больш. Рэалізацыя займа павінна праходзіць у парадку дабраахвотніцтва, не допушчаючы ні ў якім разе прымусу, гвалту і г. д.

Дзеля лепшага і пасьпяховага правядзеньня рэалізацыі пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады", патрэбна арганізаваць паміж рабачкомамі сацспаборніцтва на

лепшае правядзеньне рэалізацыі пазыкі, як сярод рабочых, так і сярод калгасьнікаў і індывідуальных бедняцка-серадняцкіх мас насельніцтва вёскі.

На мясцох пры рабачкомах павінны быць складзены камісіі садзейнічаньня дзяжкрэдыту і ашчадсправе, пры тых рабачкомах, дзе яны адсутнічаюць, зараз-жа скласьці з працаздольных рабочых, якія на справе поўнасьцю апраўдаюць сабе пры тых рабачкомах, дзе камісіі існуюць, але яны не працаздолны, не спраўляюцца з сваімі задачамі, зараз-жа іх пераабраць, замяніць працаздольнымі таварышамі лепшымі ўдарнікамі рабочых.

У мэтах сваячасовай інфармацыі і кіраўніцтва ходам рэалізацыі пазыкі, БРК Саюзу прапануе ўсім нізавым прафячэйкам к 25/VII 30 г. інфармоваць БРК аб прынятых мерах па правядзеньню дырэктывы аб распаўсюджваньні пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ і ў далейшым к кожнаму 25 числу кожнага месяца кратка паведамляць у БРК (сводка) аб ходзе рэалізацыі пазыкі „Пяцігодка ў чатыры гады“ па наступнай форме:

| Найменьне прафячэйкі | Колькі чалавек усяго прац. на вытворчасьці (установы) | Колькі чалавек падпісалася на пазыку індустрыялізацыі | Сярэдняя выплачваемая зарплата за 2 тыдні | На якую суму падпісаліся | | Колькі завербавана сялян падпісчыкаў | На якую суму | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Процэнт. | Безпроцэнт. | | Процэнт. | Безпроцэнт. |
| | | | | | | | | |

Заг. Арган. Інстр. Сэктару **Жывіцкі,**

## Усім райпрафкомам і райсельрабачкомам.

Узгляд таго, што запытываюцца ў БРК наконт парадку узіманьня сяброўскіх узносаў ад сяброў саюзу батракоў, калгасьнікаў і сяброў прамысловых саматужных арцеляў, БРК паведамляе:

1) Ад сяброў саюзу батракоў, якія састаяць членамі калгасу, калі яны атрымоўваюць не вызначаную штомесячную зарплату, а толькі авансам да канца году,—сяброўскія адлікі узімаюцца у разьмеры 10 кап. за месяц.

2) Калі сябры саюзу батракі-калгасьнікі атрымоўваюць вызначную штомесячную пэнсыю, то сяброўскія адлікі узімаюцца ў разьмеры 1%.

3) З заработку па за калгасам (лесанарыхтоўкі і інш. сяброўскія адлікі узімаюцца на агульным аснаваньні—2%.

II

1) Сябры саюзу, якія паступаюць сябрамі саматужна-прамысловых арцеляў, у зьвязку з безпрацоўем гэтакія застаюцца членамі саюзу на працягу 2-х год. Сяброўскія адлікі узімаюцца ў агульным парадку—2% з месячнай зарплаты, атрымоўваемай у арцелі.

III

Сяброўскія адлікі ад батракоў калгасьнікаў застаюцца ў райпрафкоме і ў БРК не ацсылаюцца. Гэтыя сяброўскія адлікі таксама аклейваюцца сяброўскімі маркамі, но гэтыя узносы улічваюцца па асабовай ведамасьці і прыходуюцца пасобным прыбытковым ордэрам. На гэтых ведамасьцях сябры саюзу батракі

калгасьнікі павінны расьпісвацца. Пры перасылцы сяброўскіх адлікаў у БРК трэба прылажыць гэту ведамасьць, па якой БРК спіша суму марак.

Ведамасьць бяз распісак аб узносу, не будуць сапраўдны і па ім маркі ня будуць сьпісавацца.

Адбіткі гэтакіх ведамасьцяў застаюцца ў справах рабачкому.

Арг. Сэктар **Жывіцкі.**

**Выдавецтва Бел. Рэс. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.**

Адказны рэдактар **Манжалей.**
Намесьнікі яго: **Лашкевіч, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2610. Тыраж 1000 экз. Друкарня Менспраўдому.